● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

17 кастрычніка 1996 г. чацвер, № 250 (23053)



# ЗВЯЗДА

## ЗА ЧЫМ СЁННЯ ЧАРГА?

Яшчэ тры-чатыры гады таму чарга была самай распаўсюджанай з'явай і ў Беларусі, і ў іншых кутках вялікага, былога Саюза. Успомніце, чэргі выстройваліся літаральна за ўсім: малаком, хлебам, сырам, яйкамі, мясам, імпартнымі джынсамі, магнітафонамі, залатымі ланцужкамі і пярсцёнкамі, пральным парашком, туалетнай паперай, тэлевізарамі і «сценкамі». Але самыя «страшныя» чэргі былі за каўбасой, цукрам і гарэлкай, а самыя доўгія — за ордэрам на кватэру. З цягам часу чэргі радзелі і карацелі, і мы з-за адсутнасці «пачуцця локця» сталі іншымі, нейкімі несавецкімі. Хоць і сёння чэргі ў нас усё ж ёсць.

Калі зазірнуць у дзяржаўныя ці прыватныя магазіны, чэргаў там мы не ўбачым — чаго штурхацца, калі ўсё ёсць і цэны ўсюды аднолькавыя — гэта значыць высокія? Іншая справа, калі трапіш на рынак. Асабліва калі туды прыязджаюць гандляваць прама з машын калгасы, птушкафабрыкі, каўбасныя цэхі і іншыя прадпрыемствы, і нават фермеры, у якіх у думках адно: хутчэй прадаць — і дадому. Вось і выстройваецца чарга за таннымі курамі, яйкамі, свежым сялянскім сырам, кефірам і малаком па 4 тыс. рублёў за літр і пячоначнай каўбасой за 26 тыс. рублёў за кілаграм.

Яшчэ зусім нядаўна было абавязковым паўгадзіннае стаянне за білетам ля чыгуначнай касы. А цяпер чарга калі і з'явіцца, то толькі на імгненне — у час пік, на чарговую электрычку. Прайшла праверку часам і нават стала больш шчыльнай і доўгай чарга ля ашчаднай касы. На вачах расце яе хвост, калі прыходзяць па пенсію дзядулі і бабулі ці па зарплату тыя, хто атрымлівае яе з ашчаднай кніжкі.

Чэргі нараджаюцца і тады, калі чагосьці не хапае, калі ёсць дэфіцыт. Вось і ўзнікаюць яны, навеяныя новым часам, ля абменных пунктаў валюты, ля буйных супермаркетаў ці банкаў. Але чарга гэта не для тых, хто хоча прадаць новенькі долар, — тут, як кажуць, няма праблем. Купіць «праклятыя баксы» стала немагчыма.

У жыцці нашай рэспублікі сёння адбываюцца істотныя змены. А чарга, яна, напэўна, з'яўляецца адным з паказчыкаў дабрабыту грамадства. Хочацца верыць, што настане час, калі ў чарзе мы будзем стаяць толькі ля тэатральнай касы, набываючы білецік на канцэрт славутага артыста.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## НАРАДЖЭННЕ НОВАГА БАНКА

**Гэты год для банкаўскай сістэмы нашай дзяржавы, акрамя ўсяго іншага, характэрны ліквідацыяй банкаў ці іх узбуйненнем. У выніку сёння налічваецца 33 камерцыйныя банкі, а на пачатак года іх было амаль на дзесятак больш.**

І вось днямі Нацыянальны банк зарэгістраваў яшчэ адзін. Поўная назва яго наступная: Славянскі камерцыйны нафтавы банк «Слаўнафтабанк». Заснавальнікамі выступілі з беларускага боку Белдзяржканцэрн па нафтапрадуктах, ВА «Беларусьнафта», Наваполацкае аб'яднанне «Нафтан» і іншыя.

Новаму банку выдадзена ліцэнзія на ажыццяўленне банкаўскіх аперацый, за выключэннем інкасацыі наяўных грошай і перавозкі каштоўнасцей, а таксама без права прыцягнення грашовых сродкаў насельніцтва ва ўклады і дэпазіты.

Праўленне Нацбанка прыняло рашэнне аб далучэнні «Белсувязьбанка» і «Белчыгунбанка» да «Беларусбанка» і стварэнні на іх базе галіновых філіялаў без права юрыдычнай асобы.

**Алесь МАКОЎСКІ.**





*Накцюрн для тых, хто разам...*

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА І БАРЫС ЕЛЬЦЫН АРЫЕНТУЮЦЬ ІНТЭГРАЦЫЮ НА САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫЯ ІНТАРЭСЫ НАСЕЛЬНІЦТВА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Старшыня Вышэйшага Савета Супольніцтва Беларусі і Расіі Аляксандр Лукашэнка раніцай 16 кастрычніка прыбыў з аднадзённым рабочым візітам у Маскву. Як паведамлялася ўжо, у яго, паводле папярэдняй дамоўленасці, была запланавана сустрэча з Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Барысам Ельцыным. Яна адбылася ў падмаскоўнай Барвісе, дзе кіраўнік расійскай дзяржавы рыхтуецца да аперацыі на сэрцы.

Па выніках сустрэчы прэзідэнтаў было зроблена паведамленне для прэсы. У ім адзначаецца, што Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын абмеркавалі пытанні правядзення інтэграцыйнай палітыкі ў рамках Супольніцтва. Асаблівая ўвага была ўдзелена яе арыентацыі на сацыяльна-эканамічныя інтарэсы насельніцтва, задавальненне якіх павінна заставацца галоўным крытэрыем эфектыўнасці збліжэння. У гэтай сувязі была падкрэслена важнасць паўсюднай дакладнай рэалізацыі рашэнняў аб прадастаўленні расіянам і беларусам роўных правоў у сферы працаўладкавання, медыцынскай дапамогі, адукацыі.

У паведамленні адзначана таксама неабходнасць фарміравання агульнага прававога поля абедзвюх краін, выканання першачарговай задачы уніфікацыі нацыянальных заканадаўстваў для забеспячэння адзіных прававых і сацыяльных стандартаў.

Былі разгледжаны прынцыповыя магчымасці расшырэння супрацоўніцтва прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці, гатовых перайсці да інтэнсіўнага ўзаемавыгаднага партнёрства з выкарыстаннем пераваг гаспадарчых сістэм, якія збліжаюцца.

Прэзідэнты абмеркавалі сацыяльна-эканамічнае і знешнепалітычнае становішча ў Расіі і Беларусі. У ходзе праведзенага абмену думкамі ў сувязі з інфармацыяй аб маючым адбыцца ў Беларусі рэферэндуме яны падкрэслілі неабходнасць захавання міру і стабільнасці ў грамадстве — важнейшага цяпер набытку краіны, залогу паспяховага развіцця дзяржавы. Як сказана ў паведамленні для прэсы, прэзідэнты выказаліся за кансалідацыю грамадства на аснове кампрамісу, які адпавядаў бы патрабаванням прававога дэмакратычнага шляху развіцця.

Затым адбылася сустрэча беларускага прэзідэнта з кіраўніком расійскага ўрада Віктарам Чарнамырдзіным. На ёй абмеркаваны пытанні актывізацыі беларуска-расійскага супрацоўніцтва. У прыватнасці, ішла размова аб рэалізацыі раней дасягнутых дамоўленасцей, наданні гэтаму працэсу неабходнага дынамізму. Была абмеркавана праблема супрацоўніцтва паліўна-энергетычных комплексаў дзвюх краін, разгледжаны ўзаемаадносіны ў ваенных пытаннях.

У той жа дзень Аляксандр Лукашэнка ў Свята-Духавым манастыры сустрэўся з патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем II.

Кіраўнік беларускай дзяржавы правёў перамовы з міністрам замежных спраў Расіі Яўгенам Прымаковым. У гутарцы былі закрануты пытанні развіцця беларуска-расійскіх адносінаў у іх міжнародным кантэксце. Асаблівая ўвага ўдзелена абмеркаванню ініцыятывы Аляксандра Лукашэнкі па стварэнню бяз'ядзернай зоны ў цэнтры Еўропы, а таксама праблемам расшырэння НАТО на Усход.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ПА РАХУНКАХ ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ ПОЎНАСЦЮ

**Учора ў «Розным» чакалася выступленне Юрыя Малумава, які напярэдадні паабяцаў азнаёміць дэпутатаў з інфармацыяй, якая прымусіла яго сказаць пра магчымасць «з'яўлення 19 кастрычніка на вуліцах Мінска крыві». Але паколькі намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета прымаў у гэты дзень удзел у арганізацыі візіту ў Беларусь прэзідэнта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр, то выступіць з прамовай не змог і пытанне, такім чынам, застаецца адкрытым.**

Тым часам пленарнае пасяджэнне сесіі Вярхоўнага Савета пачалося з абмеркавання законапраекта «Аб банкруцтве». Яго разгляду дэпутаты ўжо прысвяцілі не адзін дзень і нарэшце ўчора канчаткова адобрылі закон у другім чытанні. Гэтым самым яны нават заслужылі словы падзякі ад старшыні Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Васіля Шлындзікава, які прадстаўляў гэты заканадаўчы акт. Наступным быў прадстаўлены Закон «Аб кіраўніку ў працэдуры банкруцтва», які таксама без асаблівых спрэчак быў адобраны.

Аднак роля сп. Шлындзікава на гэтым не была завершана, і ён прапанаваў увазе дэпутатаў яшчэ адно пытанне. Яно датычылася спісання запазычанасці ў пазабюджэтныя фонды, штрафаў і пені за несвоечасовую яе выплату для прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці па стану на 1 кастрычніка бягучага года. Гэтая прапанова адразу ж выклікала буру пратэсту сярод пэўнай часткі дэпутатаў. Іх аргумент можна сфармуляваць так: сёння мы спісваем запазычанасці для адных, заўтра ўжо ніхто не будзе плаціць, чакаючы нашага наступнага рашэння. Некаторыя дэпутаты прапаноўвалі кампраміс — спісаць толькі штрафы і пені, пакінуўшы запазычанасці. Але паколькі ніводная прапанова не атрымала абсалютнай падтрымкі, законапраект быў у чарговы раз адпраўлены на дапрацоўку.

Затое паспяхова і вынікова прайшло абмеркаванне законапраекта «Аб стварэнні новых рабочых месцаў і падтрымцы вытворча-гаспадарчай актыўнасці насельніцтва», стварэнне якога таксама адбылося пад непасрэдным кіраўніцтвам Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах. Дэпутатам не спатрэбілася шмат часу, каб прыняць гэты закон у другім чытанні. У сілу ён уступае з 1 снежня бягучага года.

І на «дэсерт» парламенту быў прапанаваны закон, які прадугледжвае вызваленне ад падаткаў часопіса «Прыкладная спектраметрыя». Гэтае, здаецца, вузкае пытанне, тым не менш заслугоўвае ўвагі. Сітуацыя з гэтым часопісам, большасць людзей нават назву якога чуе ўпершыню, з'яўляецца тыповай для многіх сродкаў масавай інфармацыі. Справа ў тым, што на выданне гэтага часопіса адна з нямецкіх фірмаў выдзяляе чатырнаццаць тысяч долараў. Аднак, як высветлілася, амаль палову гэтай сумы, паводле беларускага заканадаўства, трэба аддаць дзяржаве ў якасці падаткаў. Вядома, у такой сітуацыі рэдакцыя апынулася перад выбарам: або спыніць сваю дзейнасць, або прасіць у нямецкага боку грошы. Апошняе аказалася нерэальным, таму з пэўнай просьбай рэдакцыя звярнулася ў Кабінет міністраў, які прапанаваў Вярхоўнаму Савету даць часопісу льготы. Вярхоўны Савет зрабіў гэта. Але ж узнікае пытанне, што рабіць астатнім часопісам?

Учора Вярхоўны Савет азнаёміўся таксама і з прапанаваным Камісіяй па дэпутацкай этыцы, мандатах і рэгламенту праектам «Правілаў этыкі дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## УВАГА! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

Сучасны век немагчымы без разгалінаванай, шматграннай інфраструктуры зносінаў. Ці не найбольшы прыярытэт тут належыць сродкам электроннай сувязі, радыё, пошце. Іх праца мае дачыненне да ўсіх слаёў насельніцтва. Таму «Звязда» і праводзіць «прамую лінію» з міністрам сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Іванавічам Ганчарэнкам. Ён адкажа на ўсе вашы пытанні, паважаныя чытачы, звязаныя з падначаленай яму галіной. **Чакаем вашых званкоў 21 кастрычніка з 12 да 13 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92.**

***Папярэдне задавайце пытанні па тэлефонах: 268-28-72 і 268-27-51 або пісьмова.***

## ПАЛІВА І ЭНЕРГІІ, МЯРКУЮЧЫ ПА ЎСІМ, НА ЗІМОВЫ ПЕРЫЯД ХОПІЦЬ

**Гатоўнасць народнай гаспадаркі Беларусі да работы ў асенне-зімовы перыяд стала асноўнай тэмай пасяджэння Калегіі Кабінета Міністраў, якое адбылося 15 кастрычніка.**

Прааналізаваўшы справы ў паліўна-энергетычным комплексе краіны, намеснік міністра эканомікі Уладзімір Найдуноў адзначыў, што падрыхтоўка да надыходзячага ацяпляльнага сезона праходзіць у адпаведнасці з арганізацыйнымі і тэхнічнымі мерапрыемствамі. З мэтай каардынацыі перадзімных падрыхтоўчых работ паўсюдна створаны і дзейнічаюць аператыўныя групы. Палівам і энергіяй усе спажыўцы забяспечваюцца ў асноўным устойліва.

Большасць прадпрыемстваў беларускай энергасістэмы ўжо завяршыла капітальны рамонт асноўнага абсталявання электрастанцый, кацельняў, электрычных і цеплавых сетак. Пэўная работа праведзена і прадпрыемствамі жыллёва-камунальнай гаспадаркі, якія замянілі дзесяткі кіламетраў цеплавых сетак, абнавілі больш чым 1000 кацельняў.

Разам з тым асобныя міністэрствы, ведамствы, дзяржаўныя канцэрны прымаюць недастатковыя меры па падрыхтоўцы прадпрыемстваў і арганізацый, аб'ектаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі да ўстойлівай работы ў асенне-зімовы перыяд. Пагаршае становішча і несвоечасовая аплата за спажываемы газ, электрычную і цеплавую энергію. Гэта ў значнай меры ўскладняе выкананне абавязацельстваў рэспублікі перад пастаўшчыкамі энергарэсурсаў па пералічэнню сродкаў, ускладняе стварэнне неабходных запасаў паліва на электрастанцыях і ў кацельнях беларускай энергасістэмы.

Трэба адзначыць, што пытанне неплацяжоў асабліва востра стаяла на пасяджэнні Калегіі. Падкрэслівалася, што доўг за «блакітнае паліва» Расіі, які ўжо дасягнуў больш як 190 мільёнаў долараў ЗША, можа рэзка абвастрыць сітуацыю з яго пастаўкай.

«Сёння кожны павінен разумець, што так далей працягвацца не можа, — сказаў, падводзячы вынікі пасяджэння, кіраўнік урада Міхаіл Чыгір. — Неабходна думаць, як выкарыстаць мясцовыя віды паліва, шукаць новыя падыходы ў пытаннях эканоміі паліва і энергіі, паўсюдна ўстанаўліваць прыборы ўліку, прыцягваючы да кіравання паліўна-энергетычным комплексам багаты навуковы патэнцыял рэспублікі».

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## МІХАІЛ ЧЫГІР НАКІРАВАЎ СПАЧУВАННЕ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРУ ЭСТОНІІ

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір 16 кастрычніка накіраваў спачуванне прэм'ер-міністру Эстоніі Цііту Вяхі ў сувязі з вялікай трагедыяй, што напаткала гэту краіну, — гібеллю ў аўтамабільнай катастрофе школьнікаў. «Смерць заўсёды гора, — гаворыцца ў тэлеграме, — але калі гінуць дзеці — гэта асабліва страшная бяда. Дазвольце раздзяліць з вамі цяжар панесенай страты. Хай дапаможа Бог родным і блізкім загінуўшых перажыць няшчасце, што абрушылася на іх».

**БЕЛТА.**

# Пазаўчора Прэзідэнт выступаў перад сваім электаратам у майцы і трусах

**Як мы ўжо паведамлялі вам, учора ветэраны мінскага «Дынама» і зборная беларускіх студэнтаў на чале з Аляксандрам Лукашэнкам згулялі футбольны матч унічыю — 2:2.**

Усё ж такі былі сумненні ў тым, што Прэзідэнт у той дзень здыме свой традыцыйны касцюм і надзене спартыўную форму. Скептыкі, на свой жаль, засталіся «з носам», бо Аляксандр Рыгоравіч сапраўды паўстаў пазаўчора на мінскім стадыёне «Дынама» перад 50-тысячнай арміяй балельшчыкаў у поўнай фізічнай кандыцыі.

Наўрад ці варта апісваць ход гульні — кожны ігрок разумеў, што ў гэтым матчы галоўнае не перамога. Як загадзя і прадказвалі многія дасціпнікі, было б дзіўна, калі б «каманда Лукашэнкі» выйграла, але здзівіліся б яшчэ больш, калі б яна прайграла. Сам Аляксандр Рыгоравіч выглядаў на полі крыху «цяжкаватым» (жартавалі, што Прэзідэнт бегае ў бронекамізэльцы), аднак, што кажуць, пагоду не псаваў. І хоць забіць яму так і не ўдалося, усё ж вельмі дапамог студэнтам не прайграць гэту сустрэчу.

Сёння можна па-рознаму ацэньваць прайшоўшы матч. З аднаго боку, у краіне разгортваюцца такія палітычныя падзеі, што круціцца галава, а Аляксандр Лукашэнка вырашыў па футбольным полі пабегаць, а з другога — чаму б і не? Прэзідэнт не кожнай краіны можа сёння пацвердзіць добра вядомы прынцып: у здаровым целе — здаровы дух. Тым больш, што Аляксандр Лукашэнка пасля гульні даў абяцанне і далей дапамагаць не толькі футболу, але і ўсяму беларускаму спорту.

...На мой погляд, той, хто прыйшоў на стадыён, не пашкадаваў. І наогул: ці марылі калі-небудзь у мінулым вядомыя футбалісты, што будуць гуляць супраць Прэзідэнта, і ці марыў некалі Прэзідэнт, што згуляе супраць сваіх куміраў?

**Алесь СІВЫ.**
**Фота БЕЛТА.**



# Аперацыя на сэрцы Ельцыну плануецца на сярэдзіну лістапада

**Аперацыя на сэрцы прэзідэнту РФ Барысу Ельцыну будзе праведзена, як і планавалася, у сярэдзіне лістапада. Аб гэтым паведаміў у эксклюзіўным інтэрв'ю «Інтэрфаксу» кіраўнік лячэбна-дыягнастычнага цэнтра Адміністрацыі Прэзідэнта прафесар Сяргей Міронаў.**

Паводле яго слоў, у выніку праведзенага курса тэрапіі ў сучасны момант «дасягнута станоўчая дынаміка якасных характарыстык крыві пацыента».

Па словах С. Міронава, «элементы анеміі» (недахват гемаглабіну ў крыві, які нясуць чырвоныя крывяныя цельцы — «ІФ») з самага пачатку падрыхтоўкі прэзідэнта да хірургічнага ўмяшання «не былі сакрэтам, а, насупраць, заставаліся адным з галоўных клопатаў яго лечачых урачоў».

«Цяпер гэта праблема паступова здымаецца, і ніякіх праблем з забеспячэннем крывёй, пры якіх аперацыя на сэрцы была б проціпаказанай, няма», — падкрэсліў прафесар. Ён канстатаваў, што «сёння няма ніякіх падстаў казаць, што Барыс Ельцын неаперабельны».



Фота з газеты «Leipziger Volkszeitung».

# РАЗГЛЯД СПРАВЫ «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ» ПАЧАЎСЯ

**15 кастрычніка Канстытуцыйны суд пачаў разгляд справы аб адпаведнасці законам прэзідэнцкага ўказа за нумарам 233. Нагадаем, ён датычыцца акцыяніравання буйнейшага на сёння выдання краіны — «Народнай газеты».**

Між тым, само пасяджэнне пачалося даволі нечакана. Суду былі прадстаўлены адразу сем хадайніцтваў аб пераносе разгляду справы на больш позні тэрмін.

Аднак разгляд справы ўсё ж пачаўся. У мінулы аўторак былі заслуханы пазіцыі канфліктных бакоў.

Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, якія ініцыіравалі разгляд, зыходзілі з арт. 39 Грамадзянскага кодэкса. Паводле яго, спыненне дзейнасці юрыдычнай асобы правамоцнае ў выпадку яе рэарганізацыі альбо ліквідацыі. Аднак, згодна з Законам аб друку, рэарганізацыя можа адбыцца толькі па рашэнню заснавальніка — у дадзеным выпадку Вярхоўнага Савета. Паколькі парламент рашэнне аб спыненні дзейнасці рэдакцыі «Народнай газеты» не прымаў, адпаведна, указ прэзідэнта аб яе акцыяніраванні супярэчыць і Закону аб друку, і Грамадзянскаму кодэксу, і шэрагу іншых законных і нарматыўных актаў.

Зусім процілеглы пункт погляду выказаў прадстаўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Пласкавіцкі. Ён паставіў пытанне ў іншым ракурсе: а ці быў у «Народнай газеты» заснавальнік увогуле? Па словах юрыста, функцыі Вярхоўнага Савета звяліся па сутнасці толькі да дэкларацыі аб заснаванні газеты, у якой, да таго ж, так і не з'явіўся ўласны статут.

Такім чынам, пазіцыі бакоў па «Народнай газеце» сталі па сутнасці зразумелымі. Хто з іх мае рацыю, пакажа далейшы разгляд справы. Застаецца хіба дадаць, што слуханні працягнуцца ў чацвер, 17 кастрычніка.

**Сяргей ГРЫБ.**

# ІНЦЫДЭНТ У САЛІГОРСКУ: ПРАЦЯГ БУДЗЕ?

**Даволі нечаканы абарот прыняла акцыя салігорскага Незалежнага прафсаюза гарнякоў, прымеркаваная да 17 кастрычніка — Міжнароднага дня барацьбы з галечай. 16 кастрычніка ў 8 гадзін раніцы пры выхадзе з Салігорска дзесяць удзельнікаў акцыі былі затрыманы мясцовай міліцыяй. На затрыманых былі складзены пратаколы, пасля чаго васьмёра з іх былі аштрафаваны на сумы ад 100 да 300 тысяч рублёў.**

Як патлумачыў «Звяздзе» начальнік Салігорскага ГАУС маёр міліцыі Анатоль Нізкі, яшчэ на пачатку месяца ў горадзе з'явіліся ўлёткі Незалежнага прафсаюза з заклікам наладзіць шэсце пратэсту. Прадстаўнікі міліцыі сустрэліся з лідэрамі прафсаюза і патлумачылі, што на падобную акцыю (паколькі пройдзе яна па тэрыторыі адразу чатырох раёнаў вобласці) патрэбны адпаведны дазвол Мінскага аблвыканкома. Дазволу атрымана не было, аднак раніцай у сераду шэсце пачалося. Сп. Нізкі паведаміў, што тым самы быў парушаны адпаведны артыкул Адміністрацыйнага кодэкса (арганізацыя вулічных мітынгаў і шэсцяў), таму міліцыя дзейнічае строга ў адпаведнасці з законам.

Між тым, зусім іншага пункту гледжання прытрымліваецца старшыня Незалежнага прафсаюза Віктар Бабаед. Па яго словах, удзельнікі ніякіх проціпраўных дзеянняў не ўчынялі, адпаведна, падстаў для іх затрымання не было.

**Сяргей ГРЫБ.**

# ДЭЛЕГАТАМ УСЕБЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА СХОДУ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму 24 лістапада 1996 г., на якім грамадзянам трэба будзе зрабіць выбар паміж двума праектамі Канстытуцыі, прапанаванымі адпаведна Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Указаная дата правядзення рэферэндуму пацверджана Вярхоўным Саветам 11 кастрычніка 1996 г.

Прэзідэнт, нягледзячы на прынятае Вярхоўным Саветам рашэнне, выказаў намер правесці рэферэндум 7 лістапада 1996 г., разлічваючы пры гэтым на падтрымку дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу.

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь, заснаваны для забеспячэння канстытуцыйнай законнасці, кіруючыся артыкулам 34 Канстытуцыі, звяртае ўвагу дэлегатаў на тое, што ў адпаведнасці з артыкулам 74 Канстытуцыі права назначэння рэспубліканскага рэферэндуму і прызначэння даты яго правядзення належыць толькі Вярхоўнаму Савету. Ніякі іншы орган, ніякая службовая асоба, у тым ліку і Прэзідэнт, не маюць права назначыць рэферэндум ці змяніць дату яго правядзення.

Прыняцце Усебеларускім народным сходам якіх-небудзь рашэнняў па пытаннях, што ўваходзяць у кампетэнцыю Вярхоўнага Савета, будзе нічым іншым, як грубым парушэннем Канстытуцыі. Змяненні і дапаўненні Канстытуцыі, рашэнні па іншых пытаннях, прынятыя з парушэннем устаноўленага парадку, не могуць лічыцца законнымі і падлягаючымі выкананню.

Захаванне Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь — канстытуцыйны абавязак кожнага грамадзяніна (артыкул 52 Канстытуцыі). Парушэнне Канстытуцыі і законаў не можа быць апраўдана ніякімі довадамі і меркаваннямі.

Канстытуцыйны суд заклікае дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу праявіць высокую грамадзянскую адказнасць, мудрасць і паказаць прыклад паважлівых адносінаў да Асноўнага закона Рэспублікі Беларусь.

***Прынята на пасяджэнні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь 14 кастрычніка 1996 г.***

# Віншаванне «Культуры»

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі павіншаваў штотыднёвік «Культура» з першым юбілеем.

Сямён Георгіевіч адзначыў, што маладое выданне творчай інтэлігенцыі за пяць гадоў паспела зрабіць вялізную асветніцкую работу, цікава і неардынарна расказваючы пра культурнае жыццё Беларусі, багатыя нацыянальныя традыцыі і гістарычную спадчыну беларусаў, адкрываючы новыя яркія таленты. На старонках «Культуры» сваімі думкамі пра творчасць, пра духоўнае адраджэнне з удумлівым чытачом дзеляцца вядомыя пісьменнікі і паэты, мастакі і артысты, мастацтвазнаўцы і філосафы, іншыя дзеячы мастацтва, тыя, хто па сутнасці з'яўляюцца нацыянальным здабыткам, гонарам краіны. Гэтыя людзі «нясуць у свет веды, дабрыню, тонкія і светлыя пачуцці, духоўнасць, абуджаючы ў асобе творчы, стваральны пачатак», — гаворыцца ў віншаванні.

Старшыня Вярхоўнага Савета пажадаў супрацоўнікам рэдакцыі плённай работы на карысць роднай Беларусі, а газеце «Культура» — новых цудоўных адкрыццяў і доўгага творчага жыцця.

**Прэс-служба ВС РБ.**

***Алег КАМІНСКІ:***

# «За пяць мінулых гадоў «Культурай» зроблена роўна столькі, колькі патрэбна ў якасці энергетычнага зараду як мінімум яшчэ на адну пяцігодку...»

**Газета «Культура» адзначае свой пяцігадовы юбілей. На фоне многіх газетных доўгажыхароў краіны дата даволі сціплая. Але ж і пяцігодка нечага вартая. Наша кароткая размова — з галоўным рэдактарам «Культуры» Алегам Камінскім.**

— За пяць гадоў — і гэта, мяркую, галоўнае — газета знайшла свайго чытача. Нас часам папракаюць, што маем малы тыраж. Не забывайцеся, што нашы чытачы амаль жабракі. Якія сёння грошы ў работнікаў культуры — вядома ўсім. І тым не менш, газету чытаюць. Мы ведаем дакладна, хто чытае: мастакі, скульптары, акцёры, музыканты. Безумоўна і таму, што мы пішам пра іх. У «Культуры» выпрацавалася традыцыя — пільная, шчырая, прыхільная ўвага да дзеячаў культуры. Вы б ведалі, як сардэчна, усхвалявана адгукаюцца сталага веку інтэлігенты на публікацыі пра іх сяброў, блізкіх ім творцаў, паплечнікаў па мастацкаму жыццю. І мы вельмі рады таму, што абуджаем памяць, пераконваем чытачоў, што наша грамадства ўсё ж не вызначаецца адно толькі забыццём.

*— «Культура», як мне памятаецца, у першыя свае гады насіла гісторыка - асветніцкі характар... Ці не згубілася гэта дзялянка на вашай ніве?*

— Безумоўна не. Але тая ранейшая задача ўжо выканана. Жыццяпісы славутых людзей, князёў беларускіх, лёсы, якія ўзорам сваім мацуюць нацыянальную самасвядомасць, ужо ў большасці сваёй раскрыты. «Культура» тады друкавала нарысы самых дасведчаных гісторыкаў. Тыя публікацыі варта было б сабраць у асобнае кніжнае выданне. Дык ізноў жа прычына знаёмая: няма грошай. А шкада. Мог бы атрымацца неблагі дапаможнік па гісторыі Беларусі.

*— Сёння ідзе шмат розных размоў (а магчыма, яны і ў рэаліі ўвасобяцца) пра аб'яднанне, зліццё беларускамоўных выданняў. Згадваецца ў дачыненні да гэтага і «Культура»...*

— Вядома ж, нас гэта трывожыць, непакоіць. Адчуваем сябе няўпэўнена, ведаючы, што знаходзімся пад пагрозай закрыцця. Але ж працуем. Настрой свой хаваем унутры саміх сябе. Працуем на чытача, для чытача. Нават удзельнічаем у якасці найпершых актывістаў у самых розных святах. Бліжэйшае ў іх радзе адбудзецца ў бліжэйшыя выхадныя дні ў Мінску — фестываль «Іграй, гармонік!»

Усё ж працуем мы на будучыню. На тое, каб данесці да чытача не аднахвілінныя палітычныя бурбалкі, а адвечнае святло культурнай прасторы. За пяць мінулых гадоў «Культурай» зроблена роўна столькі, колькі патрэбна ў якасці энергетычнага зараду як мінімум яшчэ на адну пяцігодку. Таму і жывём спадзяваннямі. Найперш — спадзяваннямі на чытача.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ПАРА МІТЫНГАЎ ПАЧЫНАЕЦЦА 17 КАСТРЫЧНІКА

**«Круглы стол» палітычных партый, грамадскіх арганізацый і прафсаюзаў прыняў зварот да ўдзельнікаў Усебеларускага народнага сходу, у якім утрымліваецца заклік «не падтрымліваць ініцыятыў, якія стануць выкарыстоўвацца для антыдзяржаўнага перавароту, не даць зрабіць сябе яго саўдзельнікамі».**

З нагоды з'яўлення гэтага дакумента 15 кастрычніка члены аргкамітэта «круглага стала» Мечыслаў Гіруць, Аляксандр Бухвостаў і Валянціна Свяцкая сустрэліся з журналістамі, каб растлумачыць сваю пазіцыю больш падрабязна. Яны паведамілі, што з неспакоем чакаюць 19 кастрычніка, калі ў Мінску збяруцца больш як 5 тысяч прадстаўнікоў працоўных калектываў з усёй краіны. Не выключана, што ім будзе прапанавана падтрымаць ініцыятыву А. Лукашэнкі аб правядзенні рэферэндуму 7 лістапада (пасля апошняга выступлення Прэзідэнта ў парламенце верагоднасць гэтага вельмі вялікая). І калі ўдзельнікі сходу пагодзяцца з гэтым, то такое рашэнне будзе грубым парушэннем Канстытуцыі і дзеючага заканадаўства, паколькі Вярхоўны Савет, як адзіны дзяржаўны орган, які мае канстытуцыйнае права на прызначэнне даты рэферэндуму, прызначыў яго на 24 лістапада. На думку М. Гіруця, да ўдзельнікаў сходу з адпаведнай заявай павінен звярнуцца і беларускі парламент. «Наша агульная задача — не дапусціць, каб вялікую колькасць людзей уцягнулі ў антыканстытуцыйныя дзеянні», — падкрэслілі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі.

Акрамя таго, яны паведамілі, што не маюць інфармацыі адносна вылучэння каго-небудзь са сваіх прыхільнікаў і аднадумцаў на Усебеларускі народны сход. Затое амаль усе яны запрошаны на Кангрэс у падтрымку Канстытуцыі, супраць дыктатуры, які адбудзецца ў Мінску днём раней. Дарэчы, А. Бухвостаў заўважыў, што 19 кастрычніка гарадскія ўлады дазволілі толькі правядзенне мітынгу на плошчы Парыжскай Камуны, адначасова забараніўшы шэсце. Такім чынам, мітынг, у якім плануецца ўдзел каля 50 тысяч чалавек, пачнецца 19 кастрычніка а 12-й гадзіне каля опернага тэатра. Арганізатары мітынгу, паводле слоў А. Бухвостава, гарантуюць, што не дапусцяць правакацый, у выніку якіх можа праліцца кроў, пра што ўжо паспелі заявіць некаторыя палітыкі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Невядома, як было праведзена гэтае апытанне, але атрымалася нешта не зусім прыемнае для мужчын Вялікай Брытаніі. Дзве трэці апытаных сумленна прызналіся, што пасля вяселля іх жонкі прыбралі да сваіх рук не толькі іх саміх, але і іх кішэні. Па апытанню, 92 працэнта «фінансавых рашэнняў», уключаючы такую «дробязь», як паходы ў бары і мыццё машын, прымаюцца толькі пасля доўгіх размоў са слабай палавінай.

**ІТАР-ТАСС.**

Амерыканскае заканадаўства дакладна размяжоўвае свабоду слова ў рамках існуючай сістэмы і спробы словам падарваць гэтую сістэму. Тут мясцовая Феміда літасці не ведае.

У гэтым упэўніўся на ўласным вопыце 18-гадовы Джэйсан Морленд з Атланты. Ён пісаў антыўрадавыя памфлеты, заклікаючы да знішчэння існуючага ладу. За што і аказаўся ў турме графства Клейтан, паколькі не знайшлося жадаючых унесці за яго залог у памеры 50 тысяч долараў. Цяпер ён чакае суда і, калі будзе празнаны вінаватым, можа атрымаць да 20 гадоў турмы плюс штраф 20 тысяч долараў. Дэмакратыя строгая, калі на яе робяць замах.

**«Труд».**

Колькі каштуе любоў да галубоў? У Мюнхене гэта ацэньваюць вельмі высока. Таму што ўрон ад галубоў для выгляду і экалогіі Мюнхена вылічваецца мільёнамі марак. А таму кожны жыхар або госць горада, які будзе падкормліваць галубоў, павінен... заплаціць штраф у памеры адной тысячы марак. Улады Мюнхена спадзяюцца, што такая мера крыху астудзіць любоў да шызакрылых.

**ІТАР-ТАСС.**

# ФОКУС-ПОКУС

ПАСЛЯ СМЕРЦІ БАЦЬКОЎ я ў вёску прыязджаў рэдка, а калі і выпадала наведаць бацькоўскую хату, то заўсёды ішоў да нашага суседа, Антона Завеі. Дзяцей у яго не было і жыў Завея з жонкай Верай, кабетай ціхай і ўслужлівай. Яны і наглядалі за маёй хатай.

У чарговы раз я прыехаў вясной, пад канец сакавіка. Агледзеўся. Вокны цэлыя і замок на дзвярах. Пастаяў у садзе і як заўсёды падаўся да суседзяў.

Адчыніў веснічкі і адчуў, што тут штосьці не так. Пакуль я азіраўся, на ганак выйшаў гаспадар. На запалых шчоках шчаціння тыднёвай даўнасці. Зімовая шапка з лінялага труса насунута на вочы.

— Веру пахаваў, — сказаў Завея паціскаючы мне руку. — Скора ўжо і саракавіны. Вось які фокус-покус. Я жыву, а Веры няма... а на тры гады маладзейшая была.

Затым мы сядзелі ў хаце. Самаробнае віно трохгадовай вытрымкі настройвала на філасофскі лад. Праўда, толькі мяне. Гаспадар з кожнай чаркай станавіўся ўсё больш панурым.

— Ну а што я без яе? А нічога! Усё ўва мне абарвалася, усё дрыжыць, — гаворыць стары, без смаку жуючы скрылёчак сала. — Не працягну я доўга, да яе пайду.

— Не трэба, Іванавіч, сябе ў магілу жывым класці, — стараюся супакоіць Завею, але ён не звяртае на мяне ўвагі. Глядзіць у акно і ціха гаворыць: — Вунь колькі маладзейшых туды адышло, а ў мае семдзесят чаго чакаць?

Віно нас моцна расчуліла і мы пайшлі на могілкі, якія раскінуліся на пагорку, адразу ж за агародамі.

Светлы дзень. У блакіце высокага неба плывуць лёгкія аблокі. Паляпваючы гумоўцамі, ідзе ссутулены Завея, я за ім. Крочым напрасткі, па леташнім іржышчы. На полі снегу няма, і толькі на могілках ён ляжыць каля старых хвояў.

Спыніліся ля жоўтага грудка жвіру і знялі шапкі. Завея папправіў каменьчык на магіле і кажа:

— Памру, то пакладзіце, каб яе костачкі блізенька былі.

— Зноў вы за сваё!

Але стары не чуе мяне.

— А бывала прачнёмся ноччу, ды ўсё гаворым, гаворым, а тут і світаць пачынае.

Голас у Завеі мякчэе і ён зноў нахіляецца да магілы.

Мы вярнуліся назад у хату і зноў пілі віно. За вечны спачын гаспадыні і за тое, што ўсе там будзем. І тут Завея паскардзіўся.

— Трэба помнік паставіць, а двайны пад два мільёны. Хачу перад смерцю на яго зірнуць. А Вера заслужыла. А без помніка магіла, як купіна...

— Зраблю я помнік, такі ж, як па сваіх, — паабяцаў я, — толькі дастаньце пару мяшкоў цэменту. Вось летам і зраблю, бясплатна зраблю. Маё слова — закон.

Ад віна ўжо моцна круцілася галава, але мы яшчэ доўга гаварылі пра вечнае. Разышліся пад вечар. Прытрымліваючыся за плот, я пайшоў у сваю хату.

❑❑❑

Помнік зрабіць даволі лёгка, калі ёсць інструмент і матэрыял. Напачатку так і было. У суботу зрабіў апалубку. І стары наліў віна. У нядзелю прывёз з кар'ера тры каляскі пяску. І Завея напоўніў чаркі. Праз тыдзень замясіў раствор. І стары папрасіў, каб цэменту не шкадаваў.

— Рабі на вякі!

На вякі дык на вякі. На вядро цэменту — вядро пяску. Заліў форму растворам, і гаспадар запрасіў у хату. Зноў пілі віно і доўга гаварылі.

— Хай застывае, а як схопіцца, палівайце вадой, а праз тыдзень і шліфаваць будзем, — сказаў я на развітанне і з'ехаў на цэлы месяц.

Калі ж вярнуўся, помнік закамянеў. Насадзіў на дрыль наждак і пачаў шліфаваць. Працаваў хвілін дваццаць, а потым дрыль залапатаў і сыпануў іскрамі. І пачаў я шліфаваць помнік рукамі. Шмарую наждачным кругам, а Завея сядзіць на ўслончыку, смокча «Астру» і дае парады:

— Можа вады падліць трэба? Лягчэй слізгаць будзе.

А мяне злосць разбірае.

— Іванавіч, а мо алеем змазаць, то зусім лёгка будзе!

— Тады я прынясу, — адказвае стары і ідзе ў хату. Вяртаецца з літровым слоікам віна. Стала лягчэй. Іванавіч жыццё ведае.

❑❑❑

Рукі патрэскаліся, на далонях скура аж рыпіць, а пальцы забінтаваныя і не гнуцца. Бяру аловак і не адчуваю яго.

Дырэктарка адвяла да акна і кажа:

— Сяргей Віктаравіч, што ў вас з рукамі? Цэглу разгружаеце, ці што?

— Працую, — адказваю я і падціскаю пальцы, бо чорную аблямовачку пад пазногцямі немагчыма выскрабці.

— Я разумею, з грашыма сёння цяжка, але навошта так надрывацца?! Купілі б штосьці, прадалі б, вунь, як наш фізрук ці Мікалай Сямёнавіч...

❑❑❑

Помнік я ўсё ж адшліфаваў і выбіў прозвішчы. Справа ад праваслаўнага крыжа — Завея Вера Міхайлаўна, а злева — Завея Антон Іванавіч. Крыху ніжэй — дата нараджэння і смерці нябожчыцы, а для старога лічбы потым выб'юцца, пасля смерці. Надпісы прамаляваў пад «золата». Бачу, што Іванавічу падабаецца. Ён топчацца побач, спрабуе чымсьці дапамагчы.

— А можа яшчэ тут нейкія словы трэба выбіць? Спакой іх душам ці вечная памяць, — разважае стары і тушыць акурак аб ногаць вялікага пальца.

— Усё, Іванавіч, можна, але ваша душа яшчэ ж не супакоілася.

— Супакоіцца! Колькі тут засталося. Пайду я да сваёй гаспадыні, хутка пайду! — запэўніў Завея.

Прыйшлося папрацаваць яшчэ некалькі гадзін, зубілам і чаканом.

Пліту прыставілі да сцяны і стары час ад часу падыходзіў да помніка пастаіць, падумае і адыдзе. Відаць, уяўляе, як ён на магіле глядзецца будзе.

На стале было ўсяго багата. Сушаная каўбаса, вяндліна, корчыкі зялёнай цыбулі, агуркі салёныя ды нейкія там кансервы. Са склепа Завея прынёс трохлітровы слоік бурштынавага віна.

— Пяць гадоў чакала, — сказаў стары і наліў чаркі. Ён дзякаваў, а я аднекваўся. Пілі, здаецца, чарка за чаркай, а ў слоіку да дна ой як далёка.

Памянулі гаспадыню, і Завея выцер слязу.

— Як падумаю пра яе, здаецца, пайшоў бы і жывым лёг.

— Іванавіч, паспееце яшчэ паляжаць. Лепш схадзіце у лазню, папарцеся, пагаліцеся, надзеньце чыстую кашулю і адразу лягчэй стане, — віно падымае ў мяне настрой, весяліць.

— А для чаго ўсё гэта? — уздыхае Завея. — Падумай толькі: разам пражылі сорак шэсць гадкоў. Ты падлічы толькі і то язык забаліць, а то пражыць.

І тут Завея неяк выпраміўся і праверыў, ці зашпілены верхні гузічак кашулі.

— Давай вып'ем за мой спачын! — урачыста сказаў стары і дастаў з шуфлядкі стала свечку.

Хаця я ўжо і быў на падпітку, але ўцяміў, што стары не жартуе.

— Які спачын, давайце лепш за здароўе — запярэчыў я.

— Вось сканаю, а ты і ведаць не будзеш. Можа праз тыдзень які ў хаце і знойдуць. Так што больш, можа, і не ўбачымся. Хто ведае? Адзін Бог!

— Яно сапраўды так, гэтага ніхто не ведае, — пагадзіўся я.

— Вось пра гэта я і кажу, — сказаў Завея і запаліў свечку. Мы ўсталі і паднялі чаркі. Выпілі моўчкі, толькі чутна было, як каўтае кадыком Іванавіч.

❑❑❑

Восенню я прыязджаў па яблыкі. На дзвярах суседскай хаты вісеў замок, а помнік быў прыкрыты абрэзкамі дошак. Са старым жа ўбачыўся неўзабаве, калі вырашыў усё ж, хоць збольшага, абабраць сад. Я сядзеў на яблыні, калі зайшоў Завея. Паголены, у чыстай кашулі і нават у нагуталіненых туфлях. Дзіва нейкае. Стаіць стары пад дрэвам і быццам бы няёмка сябе адчувае. І тут з яблыні я бачу, як з падворка Завеі выйшла жанчына. Па постаці відаць, што не старая. Формы не згубіла.

— Іванавіч! А хто там, жонка?

— Ды не-е-е, — цягне Завея, — то перасяленка з-пад Чарнобыля, прыйшла каровай пацікавіцца. Прадаць сваю Кветку я надумаў.

— А што, перасяленка дык ужо і не баба? — пазіраў я з яблыні на старога. — Зграбная, відаць.

Завея прамаўчаў.

❑❑❑

Пасля зімы ў хаце было затхла, моцна патыхала мышамі. Я адчыніў вокны. Вось тут да акна і падышоў Завея. Чыста апрануты і, як мне здалося, памаладзелы.

— Калі, Іванавіч, помнік будзем ставіць? Гадавіна даўно прайшла, — пытаюся я, паціскаючы руку старому. — Вось спецыяльна прыехаў!

Завея патупаў на ганку і ўвайшоў на кухню. Дастаў з кішэні бутэльку гарэлкі і паставіў на стол. Я палез у сумку па закуску.

— Ты, Сярожа, думай што хочаш, але з помнікам выйшаў фокус-покус, — сказаў Завея пасля таго, як мы выпілі.

— Няўжо трэснуў?

— Цэлы. Толькі, ведаеш, я ажаніўся, — вінавата паведаміў стары.

— З перасяленкай?! Ну і добра, — весела сказаў я, і гэта спадабалася суседу. Завея напоўніў чаркі і крыху адпіў.

— Ведаеш, кабета што трэба. Хто я такі? Корч! А вось цяпло чую, вось як гэтая гарэлка грэе, — стары ажывіўся і нават чарку адставіў убок.

— А хто ў магілу збіраўся?

— Праўда, збіраўся, і каб не Валя, то і лёг бы.

Вочы ў Завеі, пад пучкамі сівых броваў, чыстыя, як у дзіцяці.

— Вось я ўсё пра гэты помнік, ведаеш... ну, мне ўжо ніякавата ў тую магілу класціся. Ды і хто ведае, колькі яшчэ пражыць разам... давядзецца. Паслухай, — стары падаўся да мяне, лёг грудзьмі на стол, — а можна маю палавіну адкалоць ці адрэзаць? І па Веры паставілі б толькі яе.

— Там жа арматура ў палец таўшчынёй, — расчараваў я Завею.

— Хай так. А калі Веру Міхайлаўну зрэзаць і выбіць Валю Патапаўну, не выкідваць жа яго? — пытаецца стары і з надзеяй глядзіць на мяне.

— Зрэзаць усё можна, а раптам Валя Патапаўна захоча мармуровы ці гранітны, ды і наогул, яна баба маладая...

Размова разладзілася, і мы выйшлі на вуліцу.

— Цёпла. Камары вунь як кашу таўкуць, — адзначыў стары і палез у кішэню, але тут жа вінавата сказаў: — А я смаліць кінуў. Такі вось фокус-покус.

З двара Завеі данесліся глухія ўдары. Новая гаспадыня выбівала коўдру. Стары прыслухаўся і заспяшаўся. Мы развіталіся.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

«Вузел» дарог як спляценне лёсаў.
*Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.*

## ПРАФСАЮЗЫ ВЫХОДЗЯЦЬ НА ПЛОШЧУ

**«Так — рабоце, не — галечы» — пад такім лозунгам 17 кастрычніка на сталічнай плошчы Свабоды пройдзе мітынг, які ладзіць Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі. Акцыя, удзел у якой, паводле папярэдніх прагнозаў, прымуць каля пяці тысяч чалавек, прымеркавана да Міжнароднага дня барацьбы з беднасцю.**

Як вядома, 1996 год абвешчаны ААН Годам выкаранення беднасці. Паводле ацэнак прафсаюзаў, зараз на мяжы галечы пражывае амаль палова нашых грамадзян. Нягледзячы на набліжэнне 20 кастрычніка — тэрміну выканання прэзідэнцкага ўказа аб ліквідацыі запазычанасці па зарплаце — агульная лічба неплацяжоў па-ранейшаму крытычная — каля 800 млрд. рублёў. Нарэшце, не можа задаволіць прафсаюзы і памер мінімальнай заработнай платы, якая сёння пакрывае толькі 9 працэнтаў спажывецкіх выдаткаў чалавека.

Таму чакаецца, што на мітынгу 17 кастрычніка ФПБ вылучыць шэраг сацыяльна-эканамічных патрабаванняў, сярод якіх — прыняцце арганізацыйна-прававых захадаў па скарачэнню маштабаў беднасці, стварэнню новых працоўных месцаў, павелічэнне памераў мінімальнай зарплаты і яе своечасовая выплата. Усе прапановы будуць накіраваны Прэзідэнту, ураду і Вярхоўнаму Савету краіны.

**Сяргей ГРЫБ.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ Па разліках прафсаюзаў, **суадносіны** мінімальнай зарплаты і мінімальнага спажывецкага бюджэту ў апошнія гады пастаянна пагаршаюцца: **7:10** — у студзені 1991 года, **1,9:10** — у студзені 1994 года і **0,9:10** — да сярэдзіны бягучага.

❑ З **8707** прадпрыемстваў, якія прадстаўляюць справаздачу ў Міністэрства статыстыкі і аналізу, **2826** маюць запазычанасць па зарплаце.

❑ Згодна з прагнозам Мінфіна, сёлетні **бюджэт** да 1 студзеня 1997 года **недаатрымае** 6.400 мільярдаў рублёў.

❑ За 9 месяцаў **агульная сума тэрміновых дэпазітаў** у камерцыйных банках вырасла больш чым у 2 разы і дасягнула 5,33 трыльёна рублёў.

❑ У беларускім экспарце за 8 месяцаў першае месца займаюць **мінеральныя прадукты**, другое — **грузавыя аўтамабілі, трактары, веласіпеды**, трэцяе — **абсталяванне і прыборы**.

❑ За апошнія 150 гадоў сярэднестатыстычны еўрапеец вырас на **20 сантыметраў**.

❑ За 9 месяцаў гэтага года на ВА «Беларусьнафта» здабыты **1.395.872** тоны нафты, што складае 96 працэнтаў да аналагічнага перыяду мінулага года.

❑ **Больш як 4 працэнты** насельніцтва Беларусі — інваліды; іх у рэспубліцы налічваецца 420 тысяч чалавек.

## НА ВУЛІЦЫ ЦЁПЛА, А Ў КВАТЭРЫ...

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды» з кампетэнтных крыніц, згодна з распараджэннем старшыні Мінскага гарвыканкома ад 16 кастрычніка 1996 года № 139 яр, з сённяшняга дня ў сталіцы пачаўся ацяпляльны сезон. Уключэнне ацяплення будзе адбывацца ў адпаведнасці з зацверджаным графікам: з 17 па 20 кастрычніка — жылы фонд і інтэрнаты, з 21-га — грамадскія, адміністрацыйныя, прамысловыя і іншыя аб'екты.

Што датычыцца іншых рэгіёнаў рэспублікі, то, як зазначылі спецыялісты Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, там у хуткім часе таксама пацяплеюць батарэі ў кватэрах.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## СКОНЧЫЎ ЖЫЦЦЁ САМАГУБСТВАМ АДЗІН СА СТАРШЫНЬ КАЛГАСА

Скончыў жыццё самагубствам адзін з найбольш «моцных» на Магілёўшчыне старшынь калгасаў Васіль Паліўкін, які ўзначальваў гаспадарку «3-і з'езд Саветаў» у Кіраўскім раёне.

Жыццё ў калгасе, як вядома, не было мёдам нават для начальства, і ўсё ж з'ява суіцыду сярод гэтай катэгорыі працаўнікоў — выключная. Цяпер следства спрабуе ўстанавіць прычыны, што падштурхнулі В.Паліўкіна пайсці на «апошні крок»: матэрыяльнае становішча ў яго гаспадарцы было не з горшых у вобласці, а сам старшыня лічыўся вядомым рацыяналізатарам вытворчасці.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

# ДУМАЙ, НАРОД, ДУМАЙ!



## ДАВАЙЦЕ ЖЫЦЬ ДРУЖНА!

ПРЫНЯТА ЛІЧЫЦЬ, што сёння рэспубліка перажывае глыбокі крызіс узаемаадносінаў паміж дзвюма галінамі ўлады — выканаўчай і заканадаўчай. Гэта не зусім так. Мы на самай справе перажываем крызіс паміж партыяй улады, якую ўзначальвае Прэзідэнт А. Лукашэнка, і апазіцыяй. Проста сёння ў апазіцыі апынуліся ўсе іншыя партыі, якія маюць у Вярхоўным Савеце большасць. Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што калі б на выбарах 1995 года перамагла прэзідэнцкая «вертыкаль» і фракцыя «Згода» ў Вярхоўным Савеце была б разы ў два большай, то сёння ніякага новага праекта Канстытуцыі проста не з'явілася б, як не ўзнікла б і неабходнасць у рэферэндуме.

Але прэзідэнцкая каманда на парламенцкіх выбарах прайграла і не разлічвае на такую перамогу ў будучым. Тады што рабіць з апазіцыяй? Ва ўсіх дэмакратычных краінах апазіцыю паважаюць і ствараюць умовы для яе нармальнага існавання і працы. Да яе прыслухоўваюцца і пры любой магчымасці спрабуюць знайсці з ёй кампраміс. Гэта адбываецца таму, што ў цывілізаваным свеце разумеюць: апазіцыя сёння — гэта ўлада заўтра. Менавіта гэтага і баяцца наш Прэзідэнт і яго каманда: для іх недапушчальная сама думка аб магчымасці згубіць заўтра ўладу. Менавіта таму і з'явіўся план знішчыць апазіцыю саму па сабе пры дапамозе змянення Канстытуцыі.

Давайце ж паглядзім праз прызму праекта Канстытуцыі, які выносіць Прэзідэнт на рэферэндум, як мяркуецца гэта зрабіць. На гэтае пытанне адказвае цэнтральная частка любой Канстытуцыі: раздзел аб тым, як у дзяржаве фарміруецца ўлада і якія механізмы ўплыву на прымаемыя гэтай уладай рашэнні.

Менавіта гэты раздзел наш Прэзідэнт перапісаў цалкам, што дазваляе нам сцвярджаць аб змене дзяржаўнага ўладкавання Беларусі, якая набліжаецца. Менавіта гэты раздзел мы і разглядзім больш уважліва. І пачнём мы наш разгляд з артыкула 101, які надзяляе нашага Прэзідэнта правам «выдаваць часовыя дэкрэты, якія маюць сілу закона». І няхай вас не хвалюе слова «часовыя», таму што калі ў дэкрэце будзе названы тэрмін яго дзеяння сто гадоў, то ён якраз і будзе лічыцца часовым. А праз сто гадоў можна будзе выдаць другі «часовы» дэкрэт і гэтак далей.

Ну а што ж адбудзецца, калі прэзідэнцкі дэкрэт ці ўказ уступіць у супярэчнасць з прынятым парламентам законам? На гэта пытанне адказвае артыкул 137, які фактычна зацвярджае вяршэнства дэкрэтаў і ўказаў над законамі. На гэтым можна было б наогул паставіць кропку. Сэнс існавання заканадаўчага органа проста знікне. Але гэта не зусім так, хаця парламенту і адводзіцца роля механізма для аўтаматычнага ўхвалення палітыкі Прэзідэнта і ўрада, як гэта было з Вярхоўным Саветам у сталінскія і брэжнеўскія часы. Але самім фактам свайго існавання ён будзе заклікаваны легітымаваць Прэзідэнта ў вачах міжнароднай грамадскасці і ў вачах уласнага народа. А значыць тым самым будзе забяспечваць стабільнасць палітычнай сістэмы ў цэлым.

І паколькі па новай Канстытуцыі парламент усё ж будзе існаваць, то Прэзідэнт пастараўся застрахаваць сябе ад любых спроб апазіцыі правесці праз заканадаўчы орган нязручныя для яго рашэнні. Для пачатку, згодна з артыкулам 95, парламенту забараняецца працаваць без дазволу Прэзідэнта больш як 170 дзён у год. Затым, згодна з артыкулам 103, Прэзідэнт, яго прадстаўнікі і члены ўрада могуць выступаць у парламенце «паза чаргой тых, хто запісаўся, столькі разоў, колькі яны гэтага патрабуюць». Гісторыя парламентарызму ўжо ведае, як у такіх сітуацыях пры неабходнасці «заваліць» які-небудзь законапраект, некаторыя дэпутаты ці члены ўрада выступалі ў парламентах цэлымі суткамі (гэта зусім без перабольшання). А затым у дзеянне ўступае артыкул 100, згодна з якім закон не можа ўступіць у сілу, таму што ён не мог быць вернуты ў парламент «у сувязі з закрыццём сесіі».

І такіх хітрыкаў у новым праекце Канстытуцыі можна знайсці шмат. Адзін з іх змяшчаецца ўсё ў тым жа 103-м артыкуле, згодна з якім усе галасаванні, акрамя кадравых, павінны праводзіцца выключна адкрыта. Прэзідэнт будзе ясна бачыць, хто як галасуе, каб дакладна ведаць, на каго з дэпутатаў трэба пры неабходнасці націснуць. Але як жа кадравыя пытанні, гэта ж адзін з ключавых момантаў фарміравання інстытутаў улады? Самае галоўнае кадравае прызначэнне — Камітэт дзяржаўнага кантролю, у функцыі якога ўваходзіць кантроль за расходаваннем бюджэту, Прэзідэнт не даверыў фарміраваць нікому. Ён сам будзе яго прызначаць. З гэтага моманту выканаўчая ўлада пачне і грошы траціць, і сама ж кантраляваць свае расходы. Паколькі менавіта ў фінансах заключаецца рэальная сіла ўлады, пастолькі Прэзідэнт імкнецца валодаць гэтай уладай непадзельна.

Што ж датычыцца іншых прызначэнняў, то нават Прэзідэнту падалося непрыстойным сканцэнтраваць іх выключна ў сваіх руках. Таму для гэтых мэтаў была вынайдзена другая заканадаўчая палата — Сенат. Але галоўны фокус яе стварэння хаваецца ў парадку фарміравання гэтага самага Сената. Згодна з артыкулам 91, адна трэць сенатараў прызначаецца асабіста Прэзідэнтам. Магло б быць і крыху менш. Галоўнае тут тое, што, згодна з артыкулам 88, для аб'яўлення Прэзідэнту імпічменту трэба, каб за гэта прагаласавалі тры чвэрці сенатараў. Натуральна, што сваімі прызначэннямі Прэзідэнт блакіруе любыя, нават тэарэтычныя, спробы адхіліць сябе ад улады. Далей прасцей. Астатняя частка сенатараў выбіраецца на сесіях аблсаветаў. Можна не сумнявацца, што Прэзідэнту не прыйдзецца прыкладаць вялікія намаганні, каб правесці праз гэтыя сесіі неабходную колькасць адданых яму сенатараў. І тады ўвесь Сенат будзе падкантрольным Прэзідэнту.

Ведаючы гэта, можна цяпер паназіраць за ўсімі астатнімі кадравымі назначэннямі. Па артыкулу 116 Прэзідэнт прызначае палову саставу Канстытуцыйнага суда, уключаючы яго старшыню, астатнюю палову выбірае Сенат. А правільней сказаць — Прэзідэнт праводзіць праз Сенат. Па артыкулу 84 Прэзідэнт «са згоды Сената прызначае на пасаду старшыню і членаў Вярхоўнага суда, Генеральнага пракурора, старшыню і членаў праўлення Нацыянальнага банка» і гэтак далей. Аднак, нават калі Сенат і не «пагодзіцца», ну што ён зможа зрабіць Прэзідэнту? Галоўнае, што менавіта Прэзідэнт «назначае». І нарэшце, Прэзідэнт назначае палову членаў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў. Астатняя палова выбіраецца ўсё тым жа Сенатам.

Кола, як гаворыцца, замкнулася. Выканаўчая ўлада фарміруе выбарчыя камісіі на месцах, яна ж будзе фарміраваць і Цэнтральную выбарчую камісію. Так што вынікі будучых выбараў можна спрагназіраваць ужо сёння з дакладнасцю да сотай: 99,98 працэнта, як у старыя добрыя часы. Ну, і апошнім страховачным кругам для Прэзідэнта з'яўляецца артыкул 91, згодна з якім ён застаецца «сенатарам пажыццёва», калі сам, вядома, не адмовіцца ад гэтага. Вось усімі гэтымі працэдурамі апазіцыя канчаткова пазбаўляецца ўсялякіх дэмакратычных рычагоў уздзеяння на ўладу.

Дык чым жа ўсё-такі скончыцца канфлікт, які разгарэўся паміж уладай і апазіцыяй? Зноў вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што Прэзідэнт А. Лукашэнка свой рэферэндум ужо прайграў. Падзеі апошніх дзён паказалі, што Прэзідэнту не ўдалося ні зламаць, ні раскалоць апазіцыю. Яна цвёрда стаіць на выбраным ёю курсе і не дазваляе Прэзідэнту канчаткова авалодаць ініцыятывай. А каб выйграць рэферэндум, А. Лукашэнку трэба, па сутнасці, набраць столькі ж галасоў, колькі ў яго было ў час прэзідэнцкай кампаніі 1994 года. Але ў 1994 годзе апазіцыя змагалася з В. Кебічам, г. зн. працавала на цяперашняга Прэзідэнта.

Затое ў гэтым годзе рэферэндум па Канстытуцыі з'яўляецца для апазіцыі галоўнай задачай, і яна актыўна агітуе супраць. Так што 24 лістапада Прэзідэнт будзе ўжо не ў стане набраць столькі ж галасоў, як і ў мінулыя гады, тым больш ва ўмовах, калі выбаршчыкам прыйдзецца рабіць свой выбар між трыма варыянтамі Канстытуцыі: дзеючай, прэзідэнцкай і прапанаванай камуністамі і аграрыямі. Ужо зусім зразумела, што правесці Прэзідэнту свой рэферэндум асобна 7 лістапада Вярхоўны Савет не дазволіць.

У гэтай сітуацыі А. Лукашэнка можа, прыкрываючыся рашэннем збіраемага ім народнага сходу і кансультатыўнымі вынікамі мінулагодняга рэферэндуму, распусціць, дакладней разагнаць, Вярхоўны Савет і правесці рэферэндум сваім указам. Але ў такім разе вынікі гэтага рэферэндуму губляюць усякую легітымнасць, а разам з ёй губляе легітымнасць і сам Прэзідэнт. Гэта будзе для А. Лукашэнкі Піра ва перамога, бо губляецца глеба для стабільнасці палітычнай сістэмы. А ў апазіцыі да нашага Прэзідэнта апынецца ўся сусветная супольнасць. Унутраная ж апазіцыя застанецца няэломленай і проста сканцэнтруе сваю дзейнасць на пазапарламенцкіх метадах работы. З такой аб'яднанай апазіцыяй А. Лукашэнка не справіцца ўжо ніколі.

Таму сёння застаецца адкрытым толькі адно пытанне: ці хопіць у нашага Прэзідэнта мужнасці прайграць прыгожа і згадзіцца на прапанаваны апазіцыяй «нулявы варыянт», які прадугледжвае адначасовае адкліканне абодвух праектаў Канстытуцыі. Але гэта будзе ўжо пачаткам канца ўлады цяперашняга Прэзідэнта. Ні дэпутаты, ні рэгіянальныя палітыкі, ні выбаршчыкі ўжо ніколі не даруюць яму той страх, тое прыніжэнне, якія яны адчулі ў гэту выбарчую кампанію, зноў на час вярнуўшыся ў эпоху «одобрямс».

**Валерый ЖУРАКОЎСКІ,**
**старшыня Віцебскай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

## МЫ — НАРОД БЕЛАРУСІ, ЯК ВЫРАШЫМ, ТАК І БУДЗЕ

Мне, як будучаму ўдзельніку маючага адбыцца рэферэндуму, не ўсё роўна, што робіцца вакол яго. Калі я прачытаў у газетах звароты да народа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А. Р. і Старшыні Вярхоўнага Савета Шарэцкага С. Г., то ў мяне ўзніклі процілеглыя пачуцці. Калі зварот нашага Прэзідэнта не выклікае ніякіх адмоўных пачуццяў і стаўлення да ўдзелу ў рэферэндуме, дык зварот кіраўніка вышэйшай законатворчай улады выклікае абурэнне, жаданне падзяліцца з суайчыннікамі думкамі наконт таго, што ён напісаў.

У сваім звароце С. Г. Шарэцкі папярэджвае нас аб нібыта небяспечнай з'яве, якая насоўваецца на краіну, аб нічым неабмежаванай дыктатуры Прэзідэнта Лукашэнкі А. Р. у форме фашызму, якая ўсталюецца, калі мы падтрымаем праект Канстытуцыі, прапанаваны Прэзідэнтам.

Фашызм — гэта палітычныя плынь, якая ўзнікла ў Германіі і Італіі ў 30-я гады XX стагоддзя і адлюстроўвала інтарэсы найбольш рэакцыйных і агрэсіўных колаў названых краін, што імкнуліся да дзяржаўнай улады, да панавання ва ўсім свеце. Ён меў сваю ідэалогію, якая была заснавана на расізме, шавінізме, культе правадыра, усеагульнай уладзе дзяржавы і яе неабмежаваным кантролі над грамадствам і асобай, мілітарызацыі ўсіх бакоў жыцця, агрэсіі супраць свайго і іншых народаў. Фашызм — гэта таксама магчымасць шляхам нацыяналістычнай і сацыяльнай дэмагогіі мабілізаваць і палітычна актывізаваць значную частку насельніцтва ў сваіх і іншых краінах. Гэта тэарэтычная сутнасць фашызму.

А што абазначае слова «дыктатура»? Гэта, па лацінску, — неабмежаваная ўлада. Каб не памыліцца ў сутнасці гэтай палітычнай з'явы, трэба ўсвядоміць, што дыктатура, па-першае, гэта сістэма палітычнай улады адной асобы ці аднаго класа, якую ён стварае ў адносінах да астатняй, варожай яму, часткі грамадства. Па-другое, дыктатура — гэта спосаб ажыццяўлення дзяржаўнай улады шляхам прымянення насілля, узброенай сілы ў крызісных умовах. Маючы на ўвазе тое, што сутнасць фашызму і дыктатуры высветлена, зноў вернемся да звароту шаноўнага Старшыні С. Г. Шарэцкага, у якім ён абвінавачвае нашага Прэзідэнта ў яго прыхільнасці да фашызму і дыктатуры, а правільней кажучы, да яго намеру ўсталяваць на Беларусі шляхам усенароднага рэферэндуму дыктатуру фашызму. Ці так гэта? Адказваючы на гэтае пытанне, давайце азірнёмся ўсяго на два гады назад. У палітычным жыцці нашай краіны таго часу мы ўбачым станаўленне незалежнай дзяржавы Беларусь, успомнім смелыя, абуральныя выступленні дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання А. Р. Лукашэнкі, якія выкрывалі своекарыслівасць і карупцыю вышэйшых дзяржаўных дзеячаў.

Менавіта на яго звярнулі ўвагу ў той складаны час усе мы, людзі, што называюць сябе народам Беларусі. А праз кароткі тэрмін мы выбіралі першага ў айчыннай гісторыі Прэзідэнта. І зноў сярод тых, хто імкнуўся стаць ім, мы ўбачылі і пачулі А. Р. Лукашэнку. І мы паверылі яму, ягонай шчырасці, душэўнасці, блізкасці і чуласці да простых людзей. Мы выбралі яго сваім Прэзідэнтам і таму, што ўбачылі ў яго асобе тыя якасці, якіх не было ў «правадыроў» мінуўшчыны: ён не прайшоў тых абавязковых ступеняў дзяржаўнага ці партыйнага дзеяча, якія лічыліся неабходнымі ў часы камуністычнага кіравання; не быў ён звязаны і з партыйна-дзяржаўнай наменклатурай і таму не баяўся яе.

Мы выбралі А. Р. Лукашэнку сваім Прэзідэнтам і таму, што нам спадабалася яго перадвыбарная праграма: зменшыць інфляцыю; не дапусціць эканамічнага распаду; змагацца з карупцыяй; ажыццяўляць сацыяльную падтрымку насельніцтва. Простая і ясная праграма. Але як цяжка яе выканаць, бо шмат цяжкасцей і перашкод на яе шляху. І мы бачым, колькі намаганняў прыкладаюць наш Прэзідэнт, уся выканаўчая ўлада, каб ажыццявіць задуманае. Бачым мы і тое, што за два гады прэзідэнцтва, нягледзячы на існуючыя перашкоды і цяжкасці, А. Р. Лукашэнка не здрадзіў ні сваім выбаршчыкам, ні сваёй праграме. Чаму? Таму, што ў сваёй палітыцы ён адлюстроўвае не інтарэсы рэакцыйнай часткі грамадства, як дзеячы фашысцкага тыпу, а нашы, народныя інтарэсы. На працягу двух гадоў мы не заўважаем прыхільнасці нашага Прэзідэнта да фашызму не толькі з пункту гледжання праводзімай ім унутранай, але і знешняй палітыкі. Наша дзяржава застаецца мірнай, нейтральнай. Наша дзяржава не толькі не ўступіла ні ў адзін ваенна-палітычны саюз, накіраваны супраць іншых дзяржаў ці іх саюзаў, але яшчэ і па ініцыятыве Прэзідэнта А. Р. Лукашэнкі яна прапанавала стварыць у Еўропе бяз'ядзерную зону. Дык што ж фашысцкага ўбачылі Вы, паважаны Сямён Георгіевіч, у гэтай палітыцы? Гэта хлусня, паклёп на Прэзідэнта, яго палітыку, знявага асобы Лукашэнкі А. Р.

А ці з'яўляецца наш Прэзідэнт дыктатарам? Ці імкнецца ён да нічым неабмежаванай улады? У праекце Канстытуцыі Прэзідэнт прапануе пабудаваць дэмакратычную, сацыяльную, прававую дзяржаву. Мяркуецца, што яна будзе грунтаваць сваю дзейнасць на выкананні Канстытуцыі і законаў, будзе гарантаваць грамадзянам тыя правы і свабоды, якія існуюць ва ўсім цывілізаваным свеце, будзе з гонарам і годнасцю ставіцца да чалавека працы, ствараць умовы для свабоднага волевыяўлення грамадзян, іх неабмежаванай эканамічнай, палітычнай і сацыяльнай дзейнасці. Прэзідэнт прапануе, таксама, каб Канстытуцыя ўраўнаважыла існаванне і дзейнасць трох галін дзяржаўнай улады — выканаўчай, заканадаўчай і судовай. Вось гэта, у маім разуменні, і ёсць сутнасць тых прапаноў, якія так напалохалі С. Г. Шарэцкага ды і ўсю апазіцыю ў Вярхоўным Савеце.

Ці ёсць у гэтых прапановах, адлюстраваных у праекце Канстытуцыі, што-небудзь дыктатарскае, ці ёсць праявы дыктатарства з боку А. Р. Лукашэнкі падчас яго прэзідэнцтва? Я лічу, што няма ні першага, ні другога. Падставай для такой высновы, на мой погляд, з'яўляецца тое, што за два мінулыя гады дэмакратычныя ўмовы не пагоршыліся. Адсутнічае таксама і наступ з боку кіраўніка дзяржавы і выканаўчых уладаў на правы і свабоды грамадзян. Няма ніякіх абмежаванняў магчымасцей і накірункаў дзейнасці насельніцтва ў эканамічным, палітычным і сацыяльным жыцці. За мінулыя два гады не забаронена існаванне і дзейнасць ніводнай палітычнай партыі ці грамадзянскага руху, ні адзін грамадзянін Беларусі не арыштаваны і не асуджаны па палітычных матывах, не закрыта ніводная газета ці часопіс. Гэта факты, якіх не можа не ведаць С. Г. Шарэцкі.

Фактам з'яўляецца і тое, что падчас прэзідэнцтва А. Р. Лукашэнкі ў краіне не толькі не пагоршыліся, а, наадварот, падтрымліваюцца ўмовы для асабістага бізнесу, малога прадпрымальніцтва, замежных інвестыцый і іншых з'яў у эканоміцы, аб якіх у часы «грамадства развітога сацыялізму», грамадзяне Беларусі і іншых постсавецкіх рэспублік і марыць не маглі. Можа і гэта не ведае аўтар звароту, надрукаванага ў «Народнай волі»? Мабыць не, бо каб ведаў, дык як Старшыня Вярхоўнага Савета зрабіў бы ўсё, каб малое прадпрымальніцтва, напрыклад, мела сваё прававое поле дзейнасці, і Прэзідэнту краіны не трэба б было рэгуляваць яго сваімі ўказамі.

Усе мы ведаем і пра апошнія ўказы і распараджэнні Прэзідэнта, накіраваныя на сацыяльную падтрымку студэнтаў, ваенных курсантаў, чарнобыльцаў, працаўнікоў бюджэтнай сферы, своечасовую выплату заработнай платы, пенсій і стыпендый, матэрыяльную дапамогу мнагадзетным сем'ям, аб аднаразовай грашовай дапамозе адзінокім пенсіянерам і інвалідам для нарыхтоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і паліва.

Магчыма, Старшыня Вярхоўнага Савета, ведаючы пра цяжкасці сучаснага жыцця, прапаноўваў прыняць наконт гэтага адпаведныя законы, але не быў падтрыманы дэпутатамі? Дык чаму ў такім разе ён не звярнуўся па падтрымку да народа? Чаму? Таму, што яму, як і Вярхоўнаму Савету ўвогуле, няма часу для абмеркавання і прыняцця тых законаў дзяржавы, якія найбольш патрэбны ў сучасных умовах. Вось Вы, Сямён Георгіевіч, у сваім звароце расчараваны тым, што ні адзін з карупцыянераў, з якімі вёў барацьбу А. Р. Лукашэнка, не асуджаны. А скажыце, калі ласка, чаму Вярхоўны Савет з 1993 года і да цяперашняга часу не прыняў закона аб карупцыі? Дык вось з-за адсутнасці гэтага закона Прэзідэнту краіны не застаецца нічога іншага, як весці барацьбу з карупцыяй палітычнымі сродкамі і метадамі.

Каб прымаць неабходныя дзяржаве законы, трэба мець жаданне і розум. Дык гэта ж не робіцца, а час у Вярхоўным Савеце губляецца марна, ён траціцца на разборкі з Прэзідэнтам, з выканаўчай уладай. Глядзіш па тэлевізары, слухаеш па радыё ці чытаеш у газеце паведамленні аб рабоце нашай вышэйшай прадстаўнічай улады і толькі дзіву даешся: каго мы туды выбралі? Ды і навошта нам гэтакі Вярхоўны Савет, які ад распаду СССР і да гэтага часу так і не заявіў аб сабе як аб карысным грамадству? Чаму ж падчас рэферэндуму не падтрымаць нашага Прэзідэнта ў яго намаганні паставіць кропку ў бессэнсоўных высвятленнях адносінаў паміж галінамі ўлады?!

І яшчэ адзін факт наконт дыктатуры, якой баіцца прэзідэнцкая апазіцыя. Зусім нядаўна, менавіта на ўсенародным рэферэндуме, ініцыіраваным Прэзідэнтам А. Р. Лукашэнкам (сапраўды ж дыктатар), высвятляліся адносіны да дзяржаўнай сімволікі, да рускай мовы, да адносінаў з Расіяй. Менавіта мы, народ Беларусі, паставілі тады кропку ў гэтых пытаннях, падтрымаўшы свайго Прэзідэнта. І зноў, калі ў нашай краіне склалася, не па віне працоўных людзей, а па віне нядобрасумленных палітыкаў, крызісная сітуацыя ў палітычным жыцці, калі цяперашняя Канстытуцыя не адпавядае ўмовам, Прэзідэнт А. Р. Лукашэнка паўстае перад беларускім народам як прыстойны палітык, які паважае народную мудрасць і абапіраецца на яе. Ён прапанаваў новы рэферэндум, новую нараду з насельніцтвам. Дзе ж тут наступ фашысцкай дыктатуры? Гэта ж, шаноўны Сямён Георгіевіч і К$^0$, наступ дэмакратыі! Вось яе наступу і баіцца прэзідэнцкая апазіцыя. Вы, як Старшыня Вярхоўнага Савета, разам з аграрнай, камуністычнай і іншымі дэпутацкімі фракцыямі, хочаце адрадзіць былое ўсёўладдзе Саветаў, што дзейнічаюць пад мудрым кіраўніцтвам партыі.

Дык будзем жа сапраўды мудрым народам. Не дадзім сябе ашукаць. Не будзем раўнадушнымі ў складаны для маладой дзяржавы час, будзем уважліва чытаць праект канстытуцыі, уносіць у яго свае заўвагі і прапановы. Выйдзем на рэферэндум і зноў падтрымаем Прэзідэнта, бо мы ў ім не памыліліся. Прымем такую Канстытуцыю, якая нам патрэбна, змяніць якую без нашай згоды нікому і ніколі не дазволім, бо мы народ Беларусі, як вырашым, так і будзе.

**Антось ІЎНІЦКІ.**

# СЕЛЯДЗЕЦ — ДА СТАЛА. ПОТЫМ... ДА ЎРАЧА?

**Некалькі месяцаў таму «Звязда» паведамляла сваім чытачам аб складанай сітуацыі ў рэспубліцы з рэалізацыяй свежамарожанай марской рыбы. Нагадаем: сутнасць праблемы заключалася ў масавым заражэнні марскога прадукту гельмінтамі, якія маюць для здароўя чалавека пэўную пагрозу. У красавіку гэтага года, згодна з пастановай галоўнага санітарнага ўрача г. Мінска В. Чалнова, рэалізацыя рыбы, якая не прайшла паразіталагічнай экспертызы, на тэрыторыі сталіцы была забаронена. Але з таго часу сітуацыя не толькі не палепшылася, а, наадварот, пагоршылася.**

Справа ў наступным: калі раней гельмінты выяўляліся толькі ў мясе жывой і свежамарожанай рыбы, то цяпер яны знойдзены як у салёнай, так і ў вэнджанай рыбе. Трапіўшы ў арганізм чалавека, гэтыя паразіты могуць выклікаць розныя парушэнні: ад лёгкага кішэчнага расстройства да запаленчых захворванняў кішэчніка, інтаксікацыі, алергічнага стану, сапраўдную прычыну якіх далёка не заўсёды ўдаецца распазнаць.

З гэтай праблемай у свеце сутыкнуліся гадоў пятнаццаць назад. Прычым першымі выявілі масавае паражэнне рыб паразітамі і забілі трывогу ветэрынары. Для развітых краін паразіталагічная экспертыза рыбы — сёння абавязковая ўмова яе рэалізацыі, а вось нашаму гандлю гэтай навукай трэба будзе яшчэ авалодваць. Зрэшты, гэта ў яго інтарэсах, таму што ў выпадку допуску да рэалізацыі рыбы, якая не мае пасведчання якасці, а таксама адсутнасці ў ім звестак аб правядзенні паразіталагічнай экспертызы ім давядзецца за гэта адказваць.

У верасні недабраякасная прадукцыя выяўлялася як у прадпрыемстваў-вытворцаў, так і ў гандлёвых кропках сталіцы. Вось некаторыя з іх: ААТ «Прегель», СП : «Негедфар», ААТ «Каравай», фірма «Вітамор», магазін № 12 фірмы «Падзея», магазін «Прадуніверсан», ААТ «Рыбакомплекс».

Таму ў абстаноўцы, якая склалася, спецыялісты Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі настойліва рэкамендуюць насельніцтву абавязковую цеплавую апрацоўку рыбы (адварванне або абсмажванне рыбы маленькімі кавалачкамі на працягу 20 — 25 хвілін) як адзіна магчымы метад абеззаражвання прадукту. Зрэшты, візуальна выявіць гельмінтаў гаспадыням таксама можна: яны ўяўляюць сабой тоненькія белыя нітачкі даўжынёй сантыметр-паўтара, размешчаныя ў паласцях ці мышцах рыбы.

І яшчэ адзін нюанс: больш за ўсё паразітаў у прадукцыі з Атлантычнага акіяна, у прыватнасці ў скумбрыі, мінтаі, хеку, салацы, салёным селядцы і селядцы вострага пасолу.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...ПРАЕХАЦЬ У ГРАМАДСКІМ ТРАНСПАРЦЕ

...Пранізлівы вецер прабіраў, здавалася, да касцей, да такога «шчасця» дабавіўся дробны нудны дождж, які шчодра і кожны раз нечакана, так, што не ратаваў нават парасон, кідала ў твар ўсім людзям на прыпынку восеньская непагадзь. Аўтобус «па традыцыі» спазняўся на ...наццаць хвілін. Увабраўшы галаву ў плечы і павярнуўшыся спінай насустрач ветру, натоўп пакорліва чакаў. Нарэшце далёка наперадзе з'явіўся знаёмы сілуэт «Ікаруса». Пасажыры заварушыліся, падаліся наперад, але... дарэмна. Аўтобус не спыніўся (ці як варыянт — не расчыніў дзверы), бо людзей у ім было як селядцоў ў бочцы.

Ці не праўда, знаёмая карціна? Асабліва тыповай яна стала для мінчан апошнім часам, калі паў апошні «бастыён» у выглядзе некалі стабільна працуючага сталічнага грамадскага транспарту. Зрэшты, жыхары іншых гарадоў Беларусі адчулі гэтую радасць на ўласнай скуры значна раней, так што тут мінчанам сапраўды пашанцавала. Цяпер жа і ім даводзіцца ў многіх месцах горада ледзь не змагацца за права праезду: да традыцыйных спазненняў машын на маршрутах дадаліся частыя паломкі састарэлага парка.

Зразумела, транспартнікам зараз нялёгка. Не атрымліваючы ад дзяржавы належных датацый, яны самі вымушаны зарабляць грошы, не грэбуючы нават «адловам» сумесна з міліцыяй «зайцоў». Я наўмысна не высвятляў у вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінгарвыканкома, колькі сродкаў за апошні час было спагнана з безбілетнікаў на карысць транспартнікаў, бо і так зразумела, што гэтыя лічбы будуць унушальнымі. Але ці стала ад гэтага лягчэй пасажырам? Хіба на лініі выйшлі дадатковыя аўтобусы і тралейбусы, у транспарце паменела людзей? Падаецца, што зараз колькасць безбілетнікаў павялічылася яшчэ больш, таму што паменела транспарту і ён, як ніколі, «забіты» людзьмі. Вы калі-небудзь бачылі, каб у перапоўненым аўтобусе нехта прабіваў талоны? Выпадкова пачуў неяк размову двух мужчын. «Ты кампасціруеш калі-небудзь талоны?» — «А навошта? У такую цеснату ні адзін кантралёр не залезе». Атрымліваецца, што многія пасажыры такіх аўтобусаў і тралейбусаў — «зайцы».

Дарэчы, аб апошніх. Не ведаю, як хто, але асабіста я некалькі разоў спазняўся раніцай на штодзённую планёрку ў кабінеце рэдактара, таму што на апошнім прыпынку кантралёры пачыналі агульную праверку, выпускаючы людзей па аднаму. Скажыце, чаму я, аддаўшы грошы за месяц наперад і маючы праязны, павінен яшчэ і цярпець нязручнасці, чаму ў маёй асобе бачаць толькі патэнцыяльнага «зайца»? Праверка білетаў у такія моманты нагадвае мне пропуск у следчы ізалятар. А колькі было выпадкаў, калі правяраючыя пагражалі затрымаць увесь аўтобус, калі нехта марудзіў з аплатай штрафу? Як трапна заўважыла на гэты конт адна газета, лягчэй за ўсё зрабіць крайнім пасажыра. Колькі цынізму было ў словах аднаго кіраўніка, які заявіў на ўсю краіну, што калі няма грошай, трэба хадзіць пехатою. Калі быць паслядоўным, дык калі ў кране няма вады, мыцца наогул не патрэбна? Між іншым, сам ён на радыё прыехаў на службовай машыне — «каб не спазніцца».

Ці яшчэ праблема. Ведаеце, колькі ў пятніцу вечарам у транспарце п'яных? Не лічыў дакладна, але здаецца, што кожны трэці. Прычым уражанне, што «запраўляюцца» рабочыя напрыканцы тыдня не адыходзячы ад станкоў, бо з прахадной на прыпынак і далей у транспарт яны ідуць ужо «цёплыя». Зразумела, гэта найперш праблема кіраўнікоў прадпрыемстваў, але чаму б і транспартнікам не навесці парадак. Тую ж міліцыю падключыць ды штрафы спаганяць.

На кантралёраў глядзяць з крыўдай не як на людзей, а як на праяву сістэмы, якая зрабіла іх заложнікамі, паабяцаўшы заробак са спагнаных грошай, прымусіла ўдзельнічаць у аблавах на «зайцоў». Каб жа можна было прыцягнуць да адказнасці тых, хто давёў людзей да галечы...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ЮРЫДЫЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЯ*

# ПАСТАЯННЫ І ЧАСОВЫ ПЕРАВОД РАБОТНІКА НА ІНШУЮ РАБОТУ. ПЕРАМЯШЧЭННЕ І ЗМЯНЕННЕ ІСТОТНЫХ УМОЎ ПРАЦЫ

*Некалькі гадоў таму назад я паступіў на работу на завод. Працаваў у дзве змены з поўным рабочым днём.*

*Нядаўна загадам дырэктара, не пытаючыся нават згоды, мяне перавялі на работу ў іншы цэх толькі ў першую змену і ўстанавілі мне няпоўны 6-гадзінны дзень. У сувязі з гэтым у мяне знізіўся заробак.*

*Ці можна так абыходзіцца з простым рабочым у такі цяжкі час?*

**І. Собалеў,** г. Гомель.

Адказ на пастаўленыя пытанні ўтрымліваецца ў артыкулах 25—27 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь.

У адпаведнасці з артыкулам 25 КЗаП Рэспублікі Беларусь перавод на іншую пастаянную работу ў таго ж наймальніка, а таксама перавод на работу да іншага наймальніка або ў іншую мясцовасць, хоць бы разам з наймальнікам, дапускаецца толькі са згоды работніка. Не трэба згоды работніка пры часовых пераводах на іншую работу: у сувязі з вытворчай неабходнасцю (арт. 26 КЗаП) і ў выпадку прастою (арт. 27 КЗаП).

Праўда, цяпер паняцце і значэнне пераводу на іншую пастаянную работу значна звужана. Цяпер **пад «іншай работай» маецца на ўвазе тая, пры якой змяняецца спецыяльнасць, кваліфікацыя або пасада**. У такім выпадку без згоды работніка не абысціся. Усе іншыя змяненні працоўнага дагавора, у тым ліку і раней абумоўленыя бакамі, пераводам не лічацца.

Згодна з часткай другой таго ж 25-га артыкула КЗаП, не лічыцца пераводам і не патрабуе згоды работніка перамяшчэнне яго ў таго ж наймальніка на іншае рабочае месца, у іншае структурнае падраздзяленне ў той жа мясцовасці, даручэнне работы на іншым механізме або агрэгаце ў межах спецыяльнасці, кваліфікацыі або пасады, абумоўленай працоўным дагаворам. Наймальнік не можа толькі перамяшчаць чалавека на работу, якая проціпаказана яму па стану здароўя.

Таксама не лічыцца пераводам змяненне істотных умоў працы пры працягу работы па той жа спецыяльнасці, кваліфікацыі або на той жа пасадзе — сістэм і памераў аплаты працы, ільгот, рэжыму работы, устанаўлення або адмены няпоўнага рабочага часу, сумяшчэння прафесій, змянення разрадаў, назвы пасад і г. д. Але яны дапускаюцца без згоды работніка толькі ў сувязі з абгрунтаванымі вытворчымі, арганізацыйнымі або эканамічнымі прычынамі. Аб гэтым работнікам павінна быць паведамлена не пазней чым за адзін месяц.

Калі работнік сумняваецца ў абгрунтаванасці рашэння наймальніка наконт гэтага, то ён мае права яго абскардзіць. Згодна з пастановай пленума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 года «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак», змяненне ўмоў працы работніка пры перамяшчэнні можа быць прызнана незаконным з улікам канкрэтных абставінаў (напрыклад, перамяшчэнне непатрэбнага работніка на іншае рабочае месца з горшымі ўмовамі працы, са змяншэннем заработнай платы і да т. п.) па рашэнню суда з ускладаннем на наймальніка абавязкаў аднавіць яго ранейшыя ўмовы працы.

Калі ж істотныя змяненні ўмоў працы зроблены правільна, г. зн. у сувязі з абгрунтаванымі вытворчымі, арганізацыйнымі або эканамічнымі прычынамі, а працаваць у новых умовах работнік не згодны, то працоўны дагавор з ім спыняецца па пункту 6 артыкула 29 КЗаП Рэспублікі Беларусь («адмова ад працягу работы ў сувязі са змяненнем істотных умоў працы»).

У выпадку вытворчай неабходнасці для наймальніка ён мае права пераводзіць работніка без яго згоды на тэрмін да аднаго месяца на неабумоўленую працоўным дагаворам работу (у тым ліку і да іншага наймальніка), але ў той жа мясцовасці, з аплатай працы па выконваемай рабоце, але не ніжэй за сярэдні заробак па ранейшай рабоце.

У выпадку прастою работнікі пераводзяцца з улікам іх спецыяльнасці і кваліфікацыі на іншую рабаоту ў таго ж наймальніка на ўвесь час прастою або да іншага наймальніка, але ў той жа мясцовасці, на тэрмін да аднаго месяца. Пры пераводзе на ніжэйаплатную работу ў выніку прастою за работнікамі, якія выконваюць нормы выпрацоўкі, захоўваецца сярэдні заробак па ранейшай рабоце, а за работнікамі, якія не выконваюць нормы выпрацоўкі, або пераведзенымі на пачасова аплачваемую работу, захоўваецца іх тарыфная стаўка (аклад).

**Віктар ДАМАШЭВІЧ,**
**галоўны спецыяліст юрыдычнага аддзела Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.**

*ГАСЦЁЎНЯ АСТАПА БЕНДЭРА*

# НЕСТАНДАРТНЫЯ МЕТАДЫ БІЗНЕСУ І ЭКАНАМІЧНАЕ МАХЛЯРСТВА

**(ВЫТРЫМКІ З КНІГІ)**

*(Працяг. Пачатак у № 249)*

**ШМАТРАЗОВАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ ЗАЛОГУ**

Прадпрыемства-махляр прапануе ажыццяўляць сумесную дзейнасць. Грошы «просіць» не проста так, а пад залог. Прадстаўнікам вашай фірмы паказваюць гэты залог, які шматразова перакрывае пералічваемую вамі суму і да таго ж вельмі ліквідны.

Пасля пералічэння сродкаў вы чакаеце тавар. Калі ж ён не паступае, то вы вырашаеце забраць залог. Аднак аказваецца, што на гэты залог прэтэндуюць яшчэ некалькі дзесяткаў крэдытораў.

З банкамі такая афера рэдка атрымліваецца, таму што банкі кантралююць правільнасць афармлення залогу, а работнікі проста камерцыйных прадпрыемстваў гэтыя правілы звычайна ведаюць дрэнна.

Таму, перш чым аформіць залог, прасачыце, каб ён не быў перазакладзены.

**ПАДРОБКА ГАРАНТЫЙ І ПІСЬМАЎ, ЯКІЯ ПАЦВЯРДЖАЮЦЬ НАДЗЕЙНАСЦЬ ПАРТНЁРА**

Айчынныя бізнесмены часта вельмі наіўныя пры ажыццяўленні міжнародных здзелак, часта вераць «дутым» гарантыям і пісьмам, якія пацвярджаюць саліднасць замежнай фірмы.

У сусветнай практыцы распаўсюджана падробка дакументаў наступных банкаў: «Standby letters of Credit», «Bonus Loan Forms», «Prime Bank Disconted Letters Credit», «Zero Coupon Letters». Гэта не азначае, што не фальсіфікуюцца гарантыі іншых банкаў. Але праверыць гарантыі вядомага банка проста — дастаткова ў яго пазваніць.

Іншы раз махляры выкарыстоўваюць назвы арганізацый, сходных па гучанню з сусветна вядомымі банкамі і фірмамі. Яны і самі могуць ствараць такія назвы, замяніўшы адну-дзве літары.

**Маючы справу з фірмамі «Pansonic», «Panassonik», «Panasonik», некаторыя нашы камерсанты былі спачатку шчыра ўпэўнены, што яны купляюць прадукцыю сусветна вядомай кампаніі «Panasonic». Потым яны разабраліся, але тым не менш працягваюць падманваць насельніцтва, прадаючы за «фірму» падробкі са змененай у назве вытворцы літарай.**

**СТВАРЭННЕ БЫЦЦАМ БЫ ДАЧЧЫНАЙ ЗАМЕЖНАЙ ФІРМЫ**

Махляры могуць выступаць ад імя даччынага прадпрыемства вядомай замежнай фірмы. Для гэтага дастаткова выдумаць гучнае імя і зарэгістраваць пад гэтым імем фірму.

**Яна можа насіць, напрыклад, назву «Бош Беларашн», «Дзіор Інтэрнэшнл». Калі рэгіструючы орган раптам будзе супраць выкарыстання назваў вядомых фірмаў, то выйсце простае: назва рэгіструецца ў выглядзе абрэвіятуры, якая расшыфроўваецца ва ўнутрыфірменных і фальсіфікаваных дакументах. Для павышэння свайго прэстыжу гэтыя дакументы прадастаўляюцца кліентам на прагляд.**

У выніку кліентаў не здзіўляе, калі ў плацежных даручэннях на пералічэнне грошай іх просяць проста ўказаць: «АБМ, рэгіянальнае аддзяленне».

Пасля афіцыйнай рэгістрацыі фірмы махляры фабрыкуюць дакументы, якія сведчаць аб іх сваяцкіх адносінах з вядомай фірмай і што апошняя выступае гарантам іх аперацый.

Практыка паказвае, што не ўсе кліенты дастаткова дасканала і ўважліва вывучаюць прадастаўляемыя дакументы, а тым больш звяртаюцца ў рэгіструючыя органы або ў адпаведныя інстанцыі для высвятлення дадатковых падрабязнасцей. Высвятленні звычайна пачынаюцца пасля таго, як кліент ужо пацярпіць ад махляроў.

Апісанае махлярства звычайна ўчыняюць асобы, якія сапраўды працавалі або працуюць у замежных прадстаўніцтвах на другарадных пасадах, але маюць доступ да некаторых унутрыфірменных дакументаў. На падставе такіх дакументаў яны робяць даволі якасныя падробкі. Акрамя таго, у прадстаўніцтвах можна абзавесціся каталогамі і заключаць ад іх імя дагаворы пры ўмове, што дагавор павінна будзе выконваць вядомая кампанія, а грошы будуць накіроўвацца на рахунак махлярскай фірмы.

**Я НУ ВЕЛЬ-МІ КРУТЫ!**

У фірму з'яўляецца спадар і вядзе гутарку, з якой становіцца ясна, што прэзідэнт Украіны — яго лепшы сябар, расійскі прэм'ер-міністр асабіста з ім раіцца, а знаёмы загадчык гаспадаркі вельмі яго любіць. Пасля гэтага вам прапануе ажыццявіць камерцыйную здзелку. Для гэтага трэба даць грошы пад сумесную дзейнасць у абмен на ўрадавыя гарантыі любой з трох суседніх краін. Вам і гарантыі пакажуць, зробленыя кустарна, але даволі добра.

У такой сітуацыі не рэкамендуем адразу гнаць візіцёра ў шыю. Ён звычайна добра дасведчаны ў сферы, у якой прапануе здзелку. Яго трэба добра распытаць. Здзелка можа аказацца эфектыўнай. Адзінае, чаго яму не хапае, нягледзячы на дружбу з прэзідэнтамі і «заўгасамі», — гэта грошай. Паабяцайце яму сціплы камісійны працэнт — і хутчэй за ўсё ён пагодзіцца.

**КАМПРАМЕТАЦЫЯ КАНКУРЭНТАЎ**

Праз сродкі масавай інфармацыі праводзіцца шырокамаштабная кампанія па дыскрэдытацыі тавараў, якія выпускаюцца або прадаюцца канкурэнтамі. У выніку павялічваюцца магчымасці для рэалізацыі тавараў фірмай, якая арганізавала кампраметацыю.

**Нейкі час назад у друку прайшла серыя артыкулаў, у якіх расказвалася аб тым, якія дрэнныя для падатковага кантролю японскія апараты тыпу «Royle» і якія добрыя расійскія апараты «Ака». Праўда, знаўцы сцвярджалі, што, уставіўшы дзве запалкі пад рычажкі «Акі», на гэтай машынцы можна выбіваць чэкі без адзнакі на кантрольнай стужцы.**

**Тым не менш, падатковыя інспекцыі перасталі рэгістраваць апараты «Royle». У выніку попыт на «Аку» рэзка ўзрос.**

**ВЫДАЧА ЗАГАДЗЯ НЯПРАВІЛЬНА АФОРМЛЕНЫХ ВЭКСАЛЯЎ**

Вэксаль з'яўляецца даўгавым дакументам, аформленым строга пэўным чынам з наборам стандартных рэквізітаў. Для таго, каб вэксаль быў прызнаны несапраўдным, махляры наўмысна парушаюць заканадаўча ўстаноўленую працэдуру афармлення вексаля.

**— Вы мне павінны тры тысячы долараў.**

**— Вось вэксаль на ўсю суму. Выпісаны вельмі надзейнай фірмай.**

**— Якой жа?**

**— Фірмай Ротшыльда.**

**— А дзе яго подпіс?**

**— Подпіс? Ужо каму-каму, а Ротшыльду можна верыць на слова!**

У шэрагу выпадкаў вэксалі выпісваюць падраздзяленні або філіялы буйной гаспадарчай структуры, якім галаўны офіс такога дазволу не даваў. У выніку такія вэксалі таксама прызнаюцца несапраўднымі. І ў гэтым выпадку церпіць кліент.

**Беларускі акцыянерна-камерцыйны банк «Дукат» прыцягваў грашовыя сродкі праз свае філіялы шляхам выпіскі вэксаляў ад імя гэтых філіялаў. Калі банк збанкрутаваў і кліенты пачалі патрабаваць свае грошы назад, то высветлілася, што галаўное аддзяленне банка не давала права сваім філіялам эмітаваць вэксалі. Праз суды ўсе гэтыя вэксалі былі прызнаны несапраўднымі. Кліенты ўжо не маглі атрымаць працэнты па вэксалях. Паколькі здзелкі прызнаваліся несапраўднымі, то кліенты маглі разлічваць на вяртанне толькі сумы, якую яны пералічылі ў банк. Натуральна, што яны шмат гублялі з-за інфляцыі. Больш таго, з-за банкруцтва банка і гэту суму многія не змаглі вярнуць.**

**Аляксандр ЛУЧАНОК,**
**кандыдат эканамічных навук**

***(Аб умовах набыцця даведніка можна атрымаць інфармацыю па тэл.: (017) 268-45-60; 269-11-14.)***

*(Заканчэнне будзе)*

АКЦЫЯ «ВЫРАТАВАННЕ»

## Генадзь ГРУШАВЫ:

## «Аказаўшы рэальную дапамогу канкрэтным сем'ям, мы імкнёмся нагадаць грамадству галоўны крытэрый суіснавання ў свеце — павага і сцвярджэнне хрысціянскіх каштоўнасцей»

***Сваім зваротам да чытачоў, якія самі ці іх дзеці, сталі ахвярамі чарнобыльскай бяды, «Звязда» узяла на сябе пэўныя абавязкі. Да нас у рэдакцыю прыйшоў агромністы стос лістоў з паметкай: «Акцыя «Выратаванне». Людзі, згубіўшы надзею займець падтрымку з боку іншых дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў, звярнуліся па дапамогу да нас. Што ні ліст — расказ пра самыя складаныя перыпетыі жыцця за апошнія гады. Розная і інтанацыя гэтых лістоў. Адны, расказаўшы пра сябе, пра пакуты і нягоды, звязаныя з лячэннем дзяцей, просяць аб дапамозе. Спакойна, тактоўна. Іншыя (ёсць, паверце, і такая пошта), папярэдне абліўшы брудам БДФ «Дзецям Чарнобыля», іншыя дабрачынныя чарнобыльскія арганізацыі, патрабуюць адправіць за мяжу на аздараўленне менавіта іх дзетак. Трэція, відавочна, ужо ў нішто і ні ў кога не вераць. Напісалі ж проста так — на ўсякі выпадак. «Звязда», працягваючы акцыю «Выратаванне», трымае на кантролі кожны з вашых, паважаныя чытачы, зваротаў. Сачыце за старонкамі газеты, заставайцеся з намі. Мы ўсяляк будзем імкнуцца дапамагчы. Сённяшняя наша гутарка — са старшынёй Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзем ГРУШАВЫМ.***

**— З пачатку акцыі «Выратаванне», абвешчанай «Звяздой» і вашым фондам, прайшоў значны адрэзак часу. Завяршыўся перыяд летніх канікул — самая спрыяльная пара для аздараўлення дзяцей. Пра які плён можна гаварыць ужо сёння?**

— Па-першае, не забывайцеся — і на гэта папрасіў бы звярнуць увагу чытачоў «Звязды», усіх удзельнікаў акцыі — пра пачатак нашай работы з беларускай глыбінкай было абвешчана напрыканцы мая. Ужо былі ў асноўным складзены спісы груп, якія фонд з самага пачатку года меркаваў адправіць за мяжу. Значыць, нам давялося, наколькі гэта магчыма, узяцца за пашырэнне нашай праграмы аздараўлення. Вядомая справа, у кантактах з замежным бокам так хутка зрабіць гэта даволі складана.

**— Я ведаю, што ўжо сёння складаюцца спісы, фарміруюцца групы, афармляюцца дакументы для паездкі дзяцей за мяжу, напрыклад, у час веснавых канікулаў...**

— Так. І ўсё ж, нягледзячы на патрэбу ў доўгатэрміновай падрыхтоўцы да любой паездкі на аздараўленне за мяжу, дасягнуты значны плён. Па лініі акцыі «Выратаванне» (а лічыць трэба недзе з сярэдзіны ліпеня — якраз тады паехалі за мяжу першыя з тых, хто звярнуўся ў рэдакцыю і фонд на самым пачатку) за лета і верасень у самых розных краінах пабывала 130 хлопчыкаў і дзяўчынак.

**— Вы цудоўна разумееце, што нашых чытачоў цікавяць крытэрыі адбору дзяцей на аздараўленне. Лістоў жа ўжо назбіралася некалькі соцень...**

— Безумоўна, паўплывала на прыняцце рашэння ў пэўнай ступені і тое, хто адгукнуўся першым. Думаю, і для вас гэта важна. Акцыю вы задумалі, вядома ж, для чытачоў, пастаянных падпісчыкаў. Але ў любым выпадку нашы актывісты, нашы грамадскія памочнікі стараліся праяўляць максімальную аб'ектыўнасць у выбары, улічваліся не толькі медыцынскія даведкі, але і ўся сур'ёзнасць таго ці іншага захворвання, тая акалічнасць, ці было раней дзіця за мяжою.

**— Многія нашы чытачы звярнуліся ў рэдакцыю напрыканцы жніўня, нават у верасні. Што вы гатовыя адказаць ім, Генадзь Уладзіміравіч? Часам усплываюць такія падрабязнасці, якія ў ранейшых лістах-зваротах і не сустракалася...**

— Мы ўжо падкрэслівалі, што акцыя «Выратаванне» зусім не аднадзёнка. Ужо ў асенні-зімовы перыяд дзеці таксама паедуць на аздараўленне. Да таго ж 15 сем'ям аказана матэрыяльная дапамога.

**— Дарэчы, калі не сакрэт, які яе памер?**

— Прызнацца, тут у нас быў выбар. Калі б размова ішла пра гульню ў масавасць, то лічбу 15 можна смела было б павялічваць у 20 разоў. Колькі атрымліваецца? 300 сем'яў. Адкуль і чаму такая арыфметыка? Гэта ўсё пры ўмове, калі б на адны рукі выдавалі мы па 100 тысяч рублёў. Фонд абраў іншы шлях — кожнай з 15 сем'яў выплацілі па 2 мільёны рублёў. Гэтыя грошы ўжо нешта значаць. За іх можна, разумна распарадзіўшыся, вырашыць нейкую сур'ёзную жыццёвую праблему. Хаця б, напрыклад, дзіця ў школу апрануць. Трэба дадаць, што акрамя грошай фонд перадаваў гэтым сем'ям і гуманітарную дапамогу. Але ж мы думаем і пра іншы плён. Акцыя «Выратаванне» яшчэ раз — і мне асабіста таксама — даказала, у якім цяжкім становішчы сёння знаходзяцца людзі. І як ні дзіўна — у цяжкім становішчы знаходзіцца вёска, якая ўсіх корміць. Тут, магчыма, нехта разгледзіць у маіх словах супярэчнасці, але ж я даволі катэгарычна сцвярджаю: ніводзін фонд усім людзям не дапаможа.

**— Прабачце, але ж навошта тады ваша дабрачыннасць, навошта дэкларацыі пра дапамогу канкрэтнаму чалавеку?**

— Чаму ж дэкларацыі? Усё ж менавіта дапамога — каб не згубіцца ў жыцці, каб не заблытацца сярод слоў-абяцанняў, якія гучаць сёння з усіх бакоў. Аказаўшы рэальную дапамогу хаця б ужо па акцыі «Выратаванне» канкрэтным 130 сем'ям, мы імкнёмся нагадаць грамадству галоўны прынцып суіснавання ў свеце — павага і сцвярджэнне хрысціянскіх каштоўнасцей. Непакой за дзяцей, за блізкага чалавека — гэта часцінка, мо самая каштоўная часцінка высокай чалавечай маралі. Ды толькі непакой — гэта не адно чаканне дапамогі, не толькі заклікі і скаргі, не адно жаданне бацькоў адправіць сына ці дачку за мяжу. Людзі, азірніцеся, што ў нас робіцца: гарантыяй дабрабыту, самазадаволенасці стала бацькоўская здольнасць уключыць толькі сваё дзіця на паездку ў Германію, Францыю ці яшчэ куды-небудзь. Узяць як мага больш сабе. Мо таму і з вёскі, з глыбінкі неначальніцкія дзеткі час ад часу трапляюць на аздараўленне? Хутчэй за ўсё — якраз таму. Абвінавачваючы ўсіх у парушэнні сацыяльнай справядлівасці ў дачыненні да сябе, людзі не заўважаюць, што робяць тое ж самае ў дачыненні да іншых. Парушаючы мараль, яны калечаць саміх сябе і грамадства, а потым пакутуюць ад пануючага ў жыцці зла, чакаюць выратавання ад каго б там ні было — фондаў, урада, Прэзідэнта — толькі не ад саміх сябе.

Задумайцеся, няўжо дабрачыннасць збоку мацней за ўнутраную дзеяздольнасць чалавека, пастаянную яго гатоўнасць прыйсці на дапамогу блізкаму? Чалавек, выхаваны на павазе, на сумленнасці, фарміруе, знітоўвае калектыў аднадумцаў. І зусім не па палітычных перакананнях, а аднадумцаў па ідэі ўзаемападтрымкі, узаемадапамогі. Салідарнасць не трэба выдумваць. Яна складаецца з узаемападтрымкі, з мацавання ўжо хаця б сям'і — ці не самага жывучага антыпартыйнага аб'яднання. Вось гэтае пачуццё адзінага дома, адзінай сям'і, аднолькавай адказнасці кожнага за свой лёс і лёс сваёй радзімы і ўтвараюць сапраўдную супольнасць людзей у справядлівым і вольным грамадстве.

**— Генадзь Уладзіміравіч, ваша праца з дзецьмі, ваша ўвогуле грамадская дзейнасць звязана з многімі партнёрамі на Захадзе. Ці лагічна гэта, скажам так, у кантэксце выхавання маладога грамадзяніна, у фарміраванні будучыні ўласнай нашай краіны?**

— Гледзячы, што вы маеце на ўвазе. Мо і не след было б гаварыць пра скіраванасць, зарыентаванасць у такім вось кантэксце, што, маўляў, мы знаходзімся ў нейкай залежнасці ад Захаду. Узбагачэнне сусветным вопытам, збліжэнне нашых светапоглядаў, нарэшце, чалавечыя сяброўскія адносіны паміж людзьмі розных краін —вось аснова нашых шматлікіх замежных сувязей. А зарыентаванасць у мяне дакладная — на Беларусь. На яе будучыню. Але ж і наўрад ці варта аб гэтым гаварыць. Я бачу, што там, у Еўропе — тыя ж чалавечыя каштоўнасці, тыя ж пошукі лепшай мадэлі пабудовы грамадства. І чаму б нам не павучыцца адзін у аднаго, не разгледзець уважліва дасягненні іх цывілізацыі, што мацуе сёння, аб'ядноўвае людзей з рознымі палітычнымі перакананнямі, рознымі веравызнаннямі?

**— А ці не падаецца вам, што вось у пошуку і сцвярджэнні гэтых альбо іншых перакананняў вы становіцеся падобным да мноства рознарангавых палітыкаў, для якіх дабрачыннасць — ужо толькі сродак дасягнення пэўнай палітычнай мэты, выканання пэўнай палітычнай задачы?**

— А вы думалі, што дабрачыннасць увогуле не звязана з палітыкай? Звязана. Але ж толькі з той палітыкай, якая будуе справядлівае грамадства. Людзі пытаюцца ў мяне, чым я ўнутрана жыву. І няздольнасць альбо нежаданне адказваць адразу робіць мяне несвабодным, сапраўдным вязнем. Мая палітычная шкала — сцвярджэнне маральных каштоўнасцей. І я іду з гэтым да людзей. І ў справах, і ў выказваннях, і ў перакананнях. Таму шчыра прызнаю, што палітычная дэмакратыя для мяне сёння немагчыма без глыбокай сувязі з духоўным адраджэннем на падставе векавых традыцый хрысціянскага гуманізму.

**— Калі зрабіць нейкія высновы з той пошты, што атрымалі мы па акцыі «Выратаванне», то якімі яны будуць?**

— Мне многае далі лісты, дасланыя ў рэдакцыю і фонд. Як быццам пабываў у тых сем'ях, адкуль людзі напісалі. Вельмі падрабязныя, як правіла, споведзі — адлюстраванне таго, што робіцца ў нашым грамадстве, адлюстраванне таго, як яно жыве, якое яно, наша грамадства.

Прыемна, што часам сярод мноства асабістых просьбаў трапляе ліст, напрыклад, пра суседскую бяду. Гэта пераконвае: людзі вакол той сям'і-гаротніцы жывуць маральна здаровыя, чуллівыя. І гэта радуе, абнадзейвае: значыць ёсць у нас будучыня. Значыць адладзім мы Беларускі дом. І, думаю, не горшы, чым еўрапейскі.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## «КАПРАМОНТ» СЭРЦА — СПРАВА НЯЛЁГКАЯ І... НЯТАННАЯ

**Увесь свет уважліва сочыць за здароўем прэзідэнта Расіі, якое ў апошні час неяк разладзілася. Тое, што Барыс Ельцын — сёння фігура стратэгічная, разумеюць многія, таму натуральны той абвостраны інтарэс да яго персоны. Ельцына ўжо другі месяц рыхтуюць да аперацыі каранарнага шунціравання на адкрытым сэрцы, тэрміны правядзення якой увесь час пераносяцца. Якой будзе сітуацыя «краіны без функцыянуючага прэзідэнта» (так Расію назвалі экс-прэзідэнт СССР Гарбачоў і лідэр расійскіх камуністаў Зюганаў) — вядома толькі Богу ды яшчэ кардыяхірургам (дарэчы, расійскім), якія, магчыма, будуць рабіць аперацыю Барысу Мікалаевічу. На хвалі такога ажыятажу вакол сэрца прэзідэнта ў цэнтры ўсеагульнай увагі апынулася і постсавецкая кардыялогія ўвогуле.**

**Беларускі Цэнтр сардэчна-сасудзістай хірургіі — адзіная ў рэспубліцы ўстанова, дзе робяцца аперацыі на адкрытым сэрцы. Карэспандэнт «Звязды» размаўляе з кіраўніком Цэнтра прафесарам Уладзімірам КРЫЛОВЫМ.**

**— Уладзімір Пятровіч, калі ў Беларусі былі зроблены першыя аперацыі на адкрытым сэрцы? На якім узроўні знаходзіцца айчынная кардыяхірургія?**

— Першыя пробныя аперацыі на адкрытым сэрцы пачалі рабіць у Беларусі гадоў 16 таму. Аднак трэба разумець сітуацыю, якая існавала з кардыяхірургіяй тады яшчэ ў саюзнай рэспубліцы — наш цэнтр існаваў толькі дзеля таго, каб паказаць, што такая ўстанова функцыянуе ў Беларусі. Што і як мы рабілі — нікога не хвалявала. У той час заўсёды можна было хворага адправіць у Кіеў, Вільнюс, Маскву, Ленінград... Сітуацыя істотна змянілася пасля развалу СССР — цяпер мы маглі разлічваць толькі на ўласныя сілы. Беларускі цэнтр застаўся самнасам з 12 тысячамі хворых, якім неабходна аперацыя на сэрцы. З іх 7 тысячам трэба было рабіць аперацыю на адкрытым сэрцы са штучным кровазваротам. Міністэрства аховы здароўя Беларусі пайшло нам насустрач і ўклала ў гэтую справу вельмі шмат грошай, што дазволіла пераабсталяваць аперацыйныя. У выніку ў 5 разоў знізілася смяротнасць.

**— Колькі аперацый на адкрытым сэрцы ў год дазваляюць рабіць магчымасці Цэнтра?**

— Штогод Беларускі цэнтр сардэчна-сасудзістай хірургіі робіць каля 300 такіх аперацый. Запуск новага модуля дазволіць ужо ў наступным годзе павялічыць колькасць аперацый са штучным кровазваротам да 1000. Такім чынам, самых вострых хворых мы ўжо ў хуткім часе зможам прааперыраваць, што часткова разрадзіць сітуацыю.

**— Якая смяротнасць пасля аперацый?**

— У часы былога Саюза смяротнасць пасля аперацый у нашым Цэнтры складала 20—25 працэнтаў. У 1994 годзе, дзякуючы ў асноўным абнаўленню абсталявання, мы здолелі знізіць пасляаперацыйную смяротнасць да 6 працэнтаў, у 1995 годзе яна склала 4,3 працэнта. У той жа час у Расіі лятальныя вынікі аперацый на адкрытым сэрцы — 3—5 працэнты, у ЗША — 1,5—2 працэнты. Аднак ні ў якім разе не трэба разумець гэтыя лічбы як паказчык прафесіяналізму амерыканскіх або айчынных хірургаў. Справа ў тым, што аперацыі на адкрытым сэрцы бываюць таксама рознай складанасці і айчынныя хірургі часта вымушаны рабіць такія аперацыі ў такіх запушчаных выпадках, за якія амерыканцы ні за што не возьмуцца. Ды і пры іх узроўні жыцця, медыцыны людзей рэдка даводзяць да крытычнага стану.

**— Уладзімір Пятровіч, што такое каранарнае шунціраванне?**

— Слова «шунт» абазначае «пераключэнне патока». Абходное шунціраванне робіцца ў выпадку наяўнасці магістральнага тыпу паражэння сардэчнай артэрыі — калі ў ёй з'яўляецца перашкода (атэрасклератычныя бляшкі), якія больш як на 75 працэнтаў перакрываюць прасвет. Калі канцавыя галіны артэрыі больш-менш захаваліся, кроў можна пусціць у абход бляшкі. У якасці матэрыялу звычайна выкарыстоўваюць вену, якую бяруць з нагі пацыента. Яе прышываюць да аорты, а потым ніжэй перашкоды. Шунтоў можна налажыць да шасці — дзевяці. Аперацыя па шунціраванню праводзіцца на спыненым сэрцы з падключэннем да апарата штучнага кровазвароту.

**— З якімі складанасцямі звязана аперацыя? Ці існуюць проціпаказанні?**

— Па-першае, для таго, каб зрабіць такую аперацыю, неабходна адносна здаровая зона на артэрыі, куды можна было б ушыць шунты і каб функцыянавалі яе адгалінаванні. Па-другое, аперацыю нельга рабіць, калі пры доўгім лячэнні хваробы ўзнікае шэраг ускладненняў: вялікія анеўрызмы, ці мышца сэрца замяшчаюцца склеразаванай тканкай.

**— Наколькі здольна такая аперацыя палепшыць якасць жыцця?**

— Калі аперацыя зроблена на жыццяздольнай сардэчнай мышцы, дзякуючы нармалізацыі прытоку кіслароду, пажыўных рэчываў мышца пачынае аднаўляцца, яе функцыі паляпшаюцца. Разам з тым значна паляпшаецца і якасць жыцця. На Захадзе такіх пацыентаў ужо на 4-5-ты дзень пасля аперацыі забіраюць і займаюцца імі тэрапеўты, а на 9-10-ты — пацыент выпісваецца дамоў. Не патрабуецца для правядзення аперацыі па шунціраванню (у выпадку, калі не ўзніклі ўскладненні) і ніякай дадатковай падрыхтоўкі.

**— Колькі каштуе сёння «капрамонт» сэрца?**

— Трэба зазначыць, што аперацыі на сэрцы — адны з самых дарагіх. Аднак асноўную частку іх кошту складае не аплата працы хірургаў, а кошт матэрыялаў. Аперацыя па шунціраванню ў Беларусі абыходзіцца ў 1,5—2 тысячы долараў. У нашых суседзяў з блізкага замежжа — 5—10 тысяч долараў. Такая ж аперацыя ў краінах далёкага замежжа каштуе ўжо больш 25 тысяч долараў.

**Гутарыў Сяргей ПРОТАС.**

### СЁННЯ

**МЕСЯЦ**
Маладзік
12 кастрычніка

**ІМЯНІНЫ**
Пр. Гурыя, Варсанофія, Пятра, Паўла.
К. Ігната, Віктара.

**НАДВОР'Е**

**Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску —14—16, Мінску, Магілёве, Гомелі — 15—17, Гродне — 16—18, Брэсце — 17—19 градусаў.**

**У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, 18-га — у заходніх раёнах, 19-га — месцамі па рэспубліцы пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература 18-га ўначы — 0—5, удзень — 11—16 градусаў цяпла; 19-га ўначы — мінус 2—плюс 3, удзень — 8—13 градусаў цяпла.**

# ПРА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ КУЛЬТУРУ, АДУКАЦЫЮ, СІНДРОМ БЕЛАРУСКАСЦІ —

## У КАНТЭКСЦЕ МІЖНАРОДНАЙ НАВУКОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ,

## альбо Што такое польска-беларускі ці савецка-беларускі гібрыд?

### ПРАДМОВА

Паважаныя чытачы, па-першае, няхай не палохае вас такі доўгі і, на першы погляд, заблытаны загаловак майго матэрыялу. Калі вы цалкам прачытаеце артыкул, то зразумееце, пра што гаворка і чаму я выкарыстала такую канструкцыю. Па-другое, не думайце, калі ласка, што буду рабіць справаздачу з канферэнцыі. Хаця заўважу: менавіта канферэнцыя дала мне багата матэрыялу, каб паразважаць на тэмы, якія, здавалася б, і не самыя актуальныя ў цяперашні час, але на самай справе надзвычай важныя як для кожнага асобнага грамадзяніна Беларусі, так і для ўсіх беларусаў, што пражываюць цяпер бадай што па ўсім свеце. А за межамі Беларусі, як гавораць спецыялісты, знаходзіцца амаль трэць усёй нацыі.

### ІНФАРМАЦЫЯ

Наладзіць другую міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Культура і адукацыя беларускага замежжа» Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» ўдалося з вялікімі цяжкасцямі. Не, не падумайце, што нехта перашкаджаў. Проста ЗБС — небагатая арганізацыя, хутчэй нават бедная. Да нядаўняга часу з гэтай грамадскай структуры дзяржава брала такія самыя падаткі, як і з бізнесменаў, прадпрымальнікаў. ЗБС ледзь зводзіла канцы з канцамі. Але ж свет не без добрых людзей. Фірма «Дункан», МП «Софт-Агро», ды і асобныя ахвярныя суайчыннікі з Сібіры матэрыяльна паспрыялі таму, каб гэтае мерапрыемства адбылося. І вось 5-6 кастрычніка ў Мінску зноў змаглі сабрацца вядомыя вучоныя, якія займаюцца праблемамі культуры і адукацыі беларускай дыяспары. Каля 160 чалавек прынялі ўдзел у канферэнцыі. Беларускую дыяспару з ЗША прадстаўляў вядомы навуковец і грамадскі дзеяч Янка Запруднік, з Францыі — Вірджынія Шыманец, вялікая дэлегацыя гасцей прыбыла з Беласточчыны, з краін Балтыі, з Расіі, далёкай Якуціі і Комі Рэспублікі, з Украіны, Малдовы, Прыднястроўя — з усіх абсягаў былога СССР...

Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» спадарыня Ганна Сурмач і яго прэзідэнт Радзім Гарэцкі запрасілі на канферэнцыю прадстаўнікоў Адміністрацыі Прэзідэнта, урада, іншых дзяржаўных структур, якіх, на іх погляд, павінны былі б цікавіць праблемы беларусаў замежжа. Ніхто не прыйшоў. Акрамя прадстаўнікоў Міністэрства культуры і Міністэрства навукі і адукацыі.

### ЯК ПАЧУВАЕЦЕСЯ, ЗЕМЛЯКІ?

Сапраўды, як жа пачуваюцца нашы суайчыннікі ў замежжы? Што мы ведаем наогул пра сваіх землякоў, якія жывуць далёка-далёка ад бацькоўскага краю, ці зусім побач, у Прыбалтыцы або ў Расіі? Склалася меркаванне, што беларусы — не вызначаюцца патрыятызмам, што ў іх слабая самасвядомасць, што яны мала любяць свой край. Аднак ці так гэта на самай справе? Беларусы створаны Богам увогуле дзіўна. Пакуль ён на сваёй зямлі, то ніякіх гарачых пачуццяў да яе як быццам бы і не выказвае. Але як толькі ад'едзе куды падалей, дык імгненна пачынае сумаваць, нудзіцца, сохнуць — усё яму няміла на чужыне.

Мы пачалі «збіраць» сваю нацыю, калі ў краіне адбыўся моцны ўздым нацыянальнага адраджэння. Станаўленне дзяржаўнасці Беларусі, умацаванне суверэнітэту — усё гэта ўскалыхнула беларускую дыяспару. З далёкага замежжа да нас рушылі старыя эмігранты, каб далучыцца да стваральнай працы, а тыя беларусы, што пасля распаду СССР сталі жыхарамі іншых незалежных краін, пачалі гуртавацца, аб'ядноўвацца, ствараць свае таварыствы, арганізоўваць нядзельныя школы, культываваць сваю культуру. Працэс кансалідацыі раскіданай па ўсім свеце беларускай нацыі стаў набіраць сілу. Беларускасць як светаўспрыманне, як забыты стан душы, як лад жыцця, стала паступова вяртацца да многіх і на мацерыку, і ўдалечыні ад яго.

Але нішто не стаіць на месцы. Пасля кароткай адлігі зноў насталі халады. Беларуская дзяржава, якая на Першым з'ездзе беларусаў свету вітала ўсіх сваіх дзяцей, працягвала ім па-мацярынску рукі, абяцала клапаціцца пра іх, праз нейкі час страціла ўсякую цікавасць да сваёй дыяспары. І таму ўжо не першы год замежныя суайчыннікі ў блізкім замежжы, што называецца, «варацца ў сваім соку» і адчуваюць з боку любімай Айчыны халоднае раўнадушша і абыякавасць. Што датычыцца далёкага замежжа, то яно не надта пакутавала, таму што і раней, у савецкія часы, зведала непрымірымасць і нават варожасць афіцыйных уладаў БССР.

Аб выніках дзяржаўнай палітыкі, якая ажыццяўлялася ў апошнія гады ў адносінах да беларусаў замежжа, могуць сведчыць асобныя фрагменты з выступленняў удзельнікаў канферэнцыі.

**Хвёдар НЮНЬКА, *старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве***

*— Усё, што адбываецца ў Беларусі, рыкашэтам б'е па нас, беларусах Віленшчыны. Мы імкнёмся захаваць свае культурныя асяродкі, але адкат у справах беларускасці на Беларусі адбіваецца на дзейнасці беларускай школы ў Вільні, стала праблематычным існаванне праграмы беларускай перадачы на радыё.*

**Ганна ЛАПАЦЬЕВА, *старшыня Беларускай грамады ў Прыднястроўі, Малдова***

*— Бадай што ў самай горшай сітуацыі аказаліся мы, беларусы, што жывем у Прыднястроўі — у «папяровай» рэспубліцы. Пенсіянеры атрымліваюць пенсію, якая складае два—тры долары. Многія з іх гатовы хоць заўтра ехаць, бегчы дамоў, у Беларусь. Але ў беларускім консульстве ў Малдове не надта зацікаўлены ў тым, каб мы мелі беларускае грамадзянства. Я пісала ў парламенты Беларусі і Малдовы, але пасля адказаў на свае лісты я зразумела, што мы нікому не патрэбны.*

**Сакрат ЯНОВІЧ, *пісьменнік, Беласток, Польшча***

*— Мы, беларуская нацыянальная меншасць у Беластоку, пакінуты на волю лёсу. Мы — сіроты, для Рэспублікі Беларусь мы непатрэбныя зусім. Адсюль уся праблема, звязаная з паглыбленнем нашай іншасці. Беласточчына страчвае пачуццё ідэнтыфікацыі са сваёй радзімай. Калі так будзе працягвацца далей, то мы станемся як бы новай нацыяй Еўропы. Прыблізна так, як французы ў Парыжы і французы ў Брытаніі ці шатландцы ў Шатландыі і шатландцы на гэльскіх астравах. Быць беларусам — значыць мець сваю культуру. А калі ты не маеш культуры, то ўвогуле не маеш права належаць да якой-небудзь нацыі. Нам пагражае асіміляцыя. З чвэрці мільёна беларусаў, што ёсць на Беласточчыне, з цягам часу застанецца 30—40 тысяч. Але гэта будзе ўжо вельмі інтэлігентная, культурная меншасць, якую немагчыма будзе паланізаваць. Бо вядома, што асіміляцыя спыняецца на парозе культурнасці. А пакуль што мы маем на Беласточчыне дзіўны польска-беларускі гібрыд. Аднак ён больш сімпатычны, мне здаецца, чым савецка-беларускі гібрыд. Бо апошні гібрыд як фактычна існуючая з'ява адмаўляецца і ад сваёй мовы, і ад культуры. Адмаўляецца сам ад сябе.*

### УСЕ МЫ — У АДНОЙ ЛОДЦЫ

Праблемы культуры і адукацыі цяпер як бы ўвогуле мала хвалююць беларускае грамадства. Яны адсунуты на другі план. Удалося пагутарыць з супрацоўнікам Міністэрства адукацыі і навукі спадаром Генадзем Пяцігорам, на якога, дарэчы, ускладзены ўвесь комплекс пытанняў, звязаных з дапамогай дзяржавы беларускай дыяспары ў галіне адукацыі.

— У адрас нашага міністэрства, — заўважыў Г. Пяцігор, — не чулася крытычных заўваг на канферэнцыі. Таму што якраз яно ажыццяўляе асноўны комплекс мераў па сувязях з дыяспарай. Мы афармляем падпіску на беларускамоўныя выданні для суполак і навучальных устаноў беларускага замежжа; наладжваем курсы павышэння кваліфікацыі для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры; прымаем дзяцей на адпачынак.

Сапраўды, Міністэрства адукацыі і навукі робіць сёе-тое для беларускай дыяспары. Але, тым не менш, асаблівых зрухаў у гэтай галіне ў беларускім замежжы не назіраецца.

Цікавы факт: на канферэнцыю прыехаў наш суайчыннік, студэнт трэцяга курса Іркуцкага дзяржаўнага універсітэта Алег Рудакоў. Ён расказаў прысутным аб тым, што ў Іркуцку нядаўна створаны беларускі культурны цэнтр. Па яго звестках, у Іркуцкай вобласці жыве каля 50 тысяч беларусаў, якія прыехалі сюды ў 30-я гады па вярбоўцы. Так, ехалі ўсёй вёскай Калядзічы з Гомельшчыны, масава — з Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Дзяцей жа, якія нарадзіліся на новым месцы, у пашпарце запісвалі ўжо рускімі. А між тым, жыхары вёскі Тэрнопаль, што ў Іркуцкім краі, як адзначыў Алег Рудакоў, дасюль гавораць па-беларуску, святкуюць беларускія святы, спяваюць беларускія песні.

Алег Рудакоў, які на канферэнцыі прадстаўляў беларускі культурны цэнтр у Іркуцку, паведаміў прысутным, што яны збіраюцца адкрыць у сябе беларускую нядзельную школу, але не ведаюць, дзе ўзяць падручнікі, як запрасіць настаўнікаў беларускай мовы, для якіх мясцовая адміністрацыя паабяцала ўжо дзве стаўкі... «Прашу дапамогі!» — некалькі разоў звяртаўся да прысутных на канферэнцыі наш суайчыннік, які — усе бачылі — быў апантаны ідэяй беларускасці. Але хто пачуў яго?

Несправядлівасцю станецца тое, калі гэты малады чалавек, пабываўшы на Беларусі, зразумее, што ні ад кога тут чакаць дапамогі не даводзіцца, і з цягам часу расчаруецца ў сваіх адраджэнцкіх памкненнях.

Беларусы ва ўсім свеце — гэта адзіны арганізм нацыі. Зразумела адно: што ўсе мы — у адной лодцы. А тое, што то тут, то там — у Прыбайкальскай далечы ці ў цэнтры цывілізаванай Францыі Парыжы — раптоўна прабіваецца праз асфальт дзіўная кветка — нашчадак беларусаў — гэта яшчэ раз падкрэслівае, якая невынішчальная гэта з'ява — беларускасць.

Вірджынія Шыманец, унучка беларускіх эмігрантаў, якая выступіла на канферэнцыі з пранікнёнай прамовай, была незадаволена вызначэннем сябе як французска-беларускага гібрыду. Сталася так, што яна сама рушыла да Беларусі, сама вывучыла беларускую мову. І цяпер, пасля знаходжання ў краіне продкаў, дзе займалася вывучэннем гісторыі беларускага тэатра, адчувае сябе нарэшце цэласнай натурай.

— Карані ўсіх праблем нашай дыяспары, яе раз'яднанасці, кепскай арганізаванасці трэба шукаць не ў самой дыяспары, а ў праблемах жыцця Беларусі, — падзялілася сваімі думкамі наконт хвалюючага многіх пытання супрацоўніца Інстытута гісторыі АНБ Галіна Сяргеева. — Падтрымка беларускай дыяспары, яе прысутнасці ў свеце — хіба гэта не клопат дзяржавы? Але такой дзяржаўнай падтрымкі наша дыяспара не знаходзіць. Што казаць пра культуру і адукацыю беларусаў у замежжы, калі на Бацькаўшчыне адраджэнне захлынулася?! Усе перспектывы беларускай дыяспары знаходзяцца ў прамой залежнасці ад таго, у якім накірунку пойдуць справы на беларускім мацерыку.

І ўсё ж, як бы ні пайшлі справы на мацерыку, беларускія асяродкі ў замежжы ўжо не знікнуць. Беларускі дух не згіне. «Калі ў вас будзе зусім кепска, — пажартаваў адзін з гасцей канферэнцыі, — то давядзецца адкрыць беларускую школу ці ў Вільні, ці на Беласточчыне, ці ў Маскве, каб мінчане змаглі пасылаць туды сваіх дзяцей.»

Жарты жартамі, але хто сапраўды падтрымае ў цяжкую хвіліну, як не землякі!

**P. S. У час канферэнцыі адбылося пасяджэнне Вялікай Рады ЗБС «Бацькаўшчына», на якой былі вызначаны час і месца правядзення чарговага, Другога з'езда беларусаў свету — 26—27 ліпеня, Мінск.**

**Мяркуецца, што на ім будуць абмяркоўвацца праблемы захавання беларускай прысутнасці ў свеце.**

**Таццяна АНТОНАВА.**

*ПОГЛЯД*

# Што чакае беларускіх калекцыянераў?

**З 15 кастрычніка 1996 года РА «Белпошта» ўпершыню ў рэспубліцы пачынае падпісную кампанію на абанементнае абслугоўванне дзяржаўнымі знакамі паштовай аплаты Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.**

Да новага, 1997 года засталося мала часу. Але яго хопіць, каб цалкам выканаць тэматычны план выдання дзяржаўных знакаў паштовай аплаты Рэспублікі Беларусь на 1996 год. Шматлікія калекцыянеры паштовых марак да 1997 года будуць мець магчымасць папоўніць свае калекцыі новымі цікавымі маркамі, маркіраванымі і мастацкімі канвертамі.

Аддзел выдання знакаў паштовай аплаты выдавецкага цэнтра «Марка» Рэспубліканскага аб'яднання «Белпошта» завяршыў усю неабходную падрыхтоўку да іх выпуску. Так, калекцыянеры атрымаюць магчымасць упрыгожыць свае клясеры мастацкімі маркамі, прысвечанымі слаўным людзям Беларусі. Першая з іх будзе прысвечана беларускаму паэту-гуманісту, асветніку эпохі Адраджэння Мікалаю Гусоўскаму (1470—1533). Другая марка прысвечана вядомаму грамадскаму і палітычнаму дзеячу Мікалаю Чорнаму (1515—1565). І нарэшце, трэцяя марка гэтай серыі будзе выдадзена ў гонар Кірылы Тураўскага (1130—1181) — вядомага пісьменніка-прапаведніка, царкоўнага дзеяча, майстра прамоўніцкай прозы. Творы яго — залаты фонд старажытнай літаратуры, якая на працягу стагоддзяў карысталася вялікай папулярнасцю на землях усходніх славян.

Асаблівую цікавасць выклікаюць паштовыя мініяцюры, прысвечаныя мастацкім скарбам Дзяржаўнага нацыянальнага мастацкага музея. Падобная серыя іх з 4 марак і аднаго блока ў Рэспубліцы Беларусь выпускаецца ўпершыню. Аднак назвы мастацкіх палотнаў, рэпрадукцыі якіх будуць на марках і ў блоку, свядома не называем. Няхай гэтая серыя будзе прыемным сюрпрызам для шматлікіх калекцыянераў. Скажам толькі, што яны ўжо ў вытворчасці. Чакаць засталося нядоўга.

З'явіцца ў бліжэйшы час і марка, прысвечаная М. М. Шчакаціхіну, вядомаму беларускаму мастацтвазнаўцу, 100-годдзе з дня нараджэння якога мы адзначаем у кастрычніку. Адначасова з выхадам у свет маркі будзе арганізавана і спецыяльнае гашэнне штэмпелем «Першы дзень». Падрыхтаваны эскізы арыгіналаў для знакаў паштовай аплаты, якія будуць выпускацца ў гонар 100-годдзя з дня заснавання ў Беларусі першай гарадской тэлефоннай сеткі. Гэты выпуск будзе падарункам нашым сувязістам.

Будуць задаволены таксама і студэнты, і выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Бо да 75-годдзя гэтай аўтарытэтнай навучальнай установы будзе выпушчаны спецыяльны маркіраваны канверт з адлюстраваннем на ім галоўнага корпуса і мастацкая марка.

Спецыяльны маркіраваны канверт будзе выпушчаны ў гонар 220-годдзя з дня нараджэння Я. Чачота, беларускага і польскага паэта, фальклрыста. Адначасова будзе выдадзены аналагічны мастацкі маркіраваны канверт у гонар 100-годдзя з дня нараджэння Міхася Чарота — беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча. Яшчэ адзін канверт, падрыхтаваны эскіз якога ўжо здадзены ў вытворчасць, будзе прысвечаны Алене Кіш, мастацкая творчасць якой мае вялікае эстэтычнае і культурна-асветніцкае значэнне.

Работнікі выдавецкага цэнтра «Марка» РА «Белпошта» падрыхтавалі і навагодні сюрпрыз для калекцыянераў. Упершыню будзе выпушчана паштовая марка «З Новым годам!». Разам з мастацкім канвертам «З Новым годам!» яна адкрывае новую тэматычную серыю марак, прысвечаных навагодняму святу.

Вось чаму беларускім калекцыянерам трэба будзе да канца 1996 года падрыхтаваць месцы ў сваіх альбомах і клясерах для новых, маючых адбыцца выпускаў паштовай аплаты. Усе яны падрыхтаваны аддзелам выдання знакаў паштовай аплаты выдавецкага цэнтра «Марка» Рэспубліканскага аб'яднання «Белпошта».

**Анатоль ЛІСОЎСКІ.**

# «ГЭВ» — гэта новы часопіс.

## «ГУМАНІТАРНА-ЭКАНАМІЧНЫ ВЕСНІК»

Выхад у свет новага навукова-тэарэтычнага часопіса «Гуманітарна-эканамічны веснік», на нашу думку, з'ява не зусім звычайная. У цяперашніх умовах, калі ў нашай дзяржаве навука, і ў прыватнасці гуманітарная, мякка кажучы, не ў пашане, калі вучоныя і навукоўцы больш думаюць пра кавалак хлеба надзённага, чым пра «нейкія там» навуковыя працы ці адкрыцці, наладзіць выпуск новага выдання — справа смелая, рызыкоўная, калі не сказаць больш — адчайная. А ўлічыце яшчэ цэны — на паперу, паліграфічныя паслугі, распаўсюджанне...

Пайсці на выданне вышэйпамянёнага часопіса рызыкнула, нягледзячы на ўсё гэта, кіраўніцтва Гуманітарна-эканамічнага недзяржаўнага інстытута, які ўсяго толькі два гады таму пачаў працаваць у Мінску.

Першы нумар «Гуманітарна-эканамічнага весніка» не толькі маляўніча, з густам аформлены, але і багаты і цікавы па зместу. З грунтоўнымі, глыбокімі артыкуламі ў ім выступаюць член-карэспандэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, акадэмік Міжнароднай славянскай акадэміі Аркадзь Жураўскі, дактары навук, прафесары Аляксандр Алпееў, Павел Вадап'янаў, Аляксандр Данілаў, Аляксандр Елсукоў, Уладзімір Коршук, Расціслаў Платонаў, Галіна Сакалова, Ядвіга Яскевіч, член Канстытуцыйнага суда Беларусі, доктар юрыдычных навук Міхаіл Пастухоў... Іх публікацыі прысвечаны актуальным праблемам гісторыі, філасофіі, паліталогіі, сацыялогіі, філалогіі і права ў нашай маладой суверэннай дзяржаве.

«Гуманітарна-эканамічны веснік» будзе выходзіць адзін раз у квартал. Мяркуецца, што неўзабаве ён будзе ўнесены ў каталог і той, хто цікавіцца станам і перспектывамі развіцця ў Беларусі пераліччаных вышэй навук, зможа не толькі купіць, але і падпісацца на часопіс.

У добры шлях, «ГЭВ»!

**Андрэй МЯЦЕЛЬСКІ.**

## ПОШУК ГІМНАЗІЧНАЙ ПЕРАЕМНАСЦІ

Гімназія № 2 г. Мінска (у нядаўнім мінулым — школа № 195) добра вядома сваім прыхільным стаўленнем да беларускай культуры, беларускай гісторыі. Часта на сустрэчы з гімназістамі прыходзяць паэты, пісьменнікі, акцёры. За гонар лічаць літаратары прэзентацыю сваіх кніг у гэтай навучальнай установе.

З апошніх падзей культурна-асветнага жыцця гімназіі № 2 — прэзентацыя гісторыка-дакументальнай кнігі «Космас беларуса» Лідзіі Савік. Мерапрыемства не выпадковае. Галоўны герой кнігі — наш суайчыннік, вучоны ў галіне астранаўтыкі Барыс Кіт. У перадваенныя гады ён працаваў у Навагрудскай і Віленскай гімназіях. А зараз у гімназіі № 2 якраз ствараецца музей гісторыі беларускіх гімназій. Першыя ў ім экспанаты — матэрыялы, звязаныя з жыццём Барыса Кіта. Магчыма, прыклад яго — пераемнае звяно ў касмічным лёсе кагосьці з мінскіх гімназістаў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА



## ХАТНІ ГІДРАПРЭС

Пры змене ўтулак сайлент-блокаў верхніх і ніжніх рычагоў, а таксама выкананні іншых падобных аперацый у хатніх умовах зручна выкарыстоўваць прэс, паказаны на малюнку. Ён складаецца з аўтамабільнага гідраўлічнага дамкрата 6, пліт 1, 3, 7 і сцяжак 4. Даўжыня паміж плітамі 3 і 1 рэгулюецца пры дапамозе гаек 2 у межах 380—240 мм.



*Прасцейшы прэс: 1 і 3 — рабочыя пліты; 2 — гайкі М24 (4 шт.); 4 — сцяжка (2 шт.); 5 — шайба (6 шт.); 6 — гідраўлічны дамкрат; 7 — апорная пліта.*

## РОЛІК ЯШЧЭ ПАСЛУЖЫЦЬ



Фіксатары дзвярэй у «Жыгулях» перастаюць дзейнічаць з-за двухбаковай зношанасці пластмасавага роліка.

Каб аднавіць працаздольнасць фіксатара, дастаткова павярнуць ролік на 90° і падвесці яго нязношаныя ўчасткі пад спружыну. У такім становішчы ролік трэба надзейна застапарыць. Як гэта зрабіць, зразумела з малюнка.

*1 — корпус фіксатара; 2 — ролік; 3 — вось роліка; 4 — дрот дыяметрам 1,5—2,0 мм.*

## ФІКСАЦЫЯ БУДЗЕ ДОБРАЙ



Калі ў старым «Запарожцы» дзверцы дрэнна зачыняюцца і фіксуюцца, а рэгуляванне зашчапкі вынікаў не дае, паглядзіце, ці не знасілася яе паліца. Паспрабуйце прыкляпаць да яе палоску латуні шырынёй 8 і таўшчынёй 1,5 мм, як паказана на малюнку. Дзверцы стануць фіксавацца добра і не будуць грукаць пры яздзе.

*Зашчапка дзверцаў: 1 — латунная палоска; 2 — заклёпка дыяметрам 3 мм.*

## РАМОНТ АБМЕЖАВАЛЬНІКА

Бывае, што ў «Жыгулях» ламаецца абмежавальнік дзвярэй. Працягваць ездзіць без абмежавальніка можна толькі зняўшы дзверы. У такім разе трэба зняць цэлы абмежавальнік з левай задняй дзверцы, якой карыстаюцца менш, і паставіць яго замест паламанага. Апошні можна адрамантаваць даволі проста. Канцы абломкаў устаўляюць у кароткую трубку дыяметрам 6 мм. Надзяваюць абмежавальнік на ролік 5 і звязваюць дротам. Сабраны абмежавальнік устаўляюць на яго месца ў задняй левай дзверцы, а канцы заводзяць у петлі 1 на стойцы. Паміж канцамі абмежавальніка ўстаўляюць з нацяжэннем распорную ўстаўку 2, выразаную з дрэва ці са шчыльнай гумы.



*Самы просты рамонт абмежавальніка дзверцы: 1 — петлі на стойцы кузава; 2 — распорная ўстаўка; 3 — абмежавальнік; 4 — дзверца; 5 — ролік; 6 — драцяная звязка; 7 — месца паломкі; 8 — кавалак трубы.*

## ЗНАДВОРНЫ ЗАМОК «ВАСЬМЁРКІ»



З цягам часу ў аўтамабілях «ВАЗ-2108» і 2109 пачынае дрэнна працаваць знадворны замок дзвярэй, а неўзабаве зусім псуюцца. Прычына ў тым, што расхістваецца палец у прыводзе замка. Паколькі замок неразборны, замацоўваюць палец, расклёпваючы ўнутраны канец цыплікам праз дзірку, якую свідруюць, як паказана на малюнку.

# ШАШКІ

### ПРАВЕРЦЕ РАШЭННІ

Эцюд Я. Гордзіна з мінулага шашачнага выпуску рашаецца так: 1. ab2 ab4 (А) 2. ba3 bc3 3. d:b4 ba5 4. bc5 ab4 5. ef6 g:e5 6. cd6x.

А. 1. ... gh6 2. ef6 ab4 3. bc3 ba3 4. fe7 bc5 (Б) 5. ef8 hg5 (В) 6. f:b4 7. de3x.

Б. 4. ... ba5 5. ef8 hg5 6. fg7 gf4 7. de3x.

В. 5. ... cb4 6. c:a3 ab2 7. dc3 8. fc5x.

### ЗАДАЧА А. МЯДЗВЕДЗЕВА

У ёй трэба заперці чорную шашку. Добра вядома, што гэта зрабіць больш цяжка, калі ў белых шмат дамак. І ўсё ж — адшукайце шлях да поспеху.



**Белыя:** дамкі f6, g5, g7, h4, h6 (5).
**Чорныя:** простыя: a5, a7 (2).

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 17 кастрычніка

### Беларускае тэлебачанне

**9.15** «Сямейны блюз пад гукі акарыны». Дак. фільм.
**9.40** Каралеўскае паляванне.
**10.20** «Коннік без галавы». Маст. фільм.
**11.55** «Гульні народаў свету».
**12.25** Зоркі беларускай оперы. Р. Млодак, І. Балоцін, А. Арсенка.
**15.00** Навіны.
**15.10** «Каменная кветка». Мультфільм.
**15.35** Тэлебачанне — школе. Чалавек і свет. 3-ці клас. Расліны і жывёлы вадаёмаў.
**15.55** Канцэртны сезон. Студэнты-баяністы Беларускай акадэміі музыкі.
**16.30** Параграф. Сістэма перанавучання беспрацоўных.
**17.00** 23 градусы 40 мінут на ўсход ад Грынвіча.
**17.30** Майстэрня. «Беларускі габелен».
**17.55** Урокі Наталлі Наважылавай.
**18.25** Музычны антракт.
**18.40** Эканамікст.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** Рэферэндум: шчырая размова.
**19.35** «Дзяжурная аптэка». 25-я серыя.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.10** С. Немаляева і М. Грынько ў маст. фільме «Прапаную руку і сэрца».
**23.40** «Оскар». Тэлегульня.
**0.10** Навіны.
**0.25** «Крок». Праграма для моладзі.

### ГРТ

**.9.00** Футбол. «Аякс» — «Глазга Рэйнджэрс».
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету».
**11.55** «ТАСС упаўнаважаны заявіць...» 7-я серыя.
**13.10** Шчаслівы выпадак.
**14.00** Навіны.
**14.20** «Горад сабак».
**14.45** Лего-го!
**15.10** Цін-Тонік.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** Рок-урок.
**16.30** «Вакол свету».
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.05** Гадзіна пік.
**18.30** Іграй, гармонік любы!
**19.00** «Мая сям'я».
**19.45** «Добрай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.40** Маст. фільм «Апошні магнат».
**23.00** Навіны.
**23.10** «Абоз».
**0.00** Серыял «Кафэ кашмараў».
**0.55** Праграма перадач.

### Расія

**9.50--10.20, 23.25** Тавары — поштай.
**16.30** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў.
**17.00** Залежыць ад цябе.
**17.20** Экспавеснік.
**17.30** Пецярбургскія сезоны.
**18.00** Новае пятае кола.
**18.40** «Цёмная» для Г. Папова.
**19.30** «Санта-Барбара».
**20.30** Рэк-тайм.
**20.45** Лато-мільён.
**21.05** Баскетбол. ЦСКА — «Лімож» (Францыя).
**22.45** «Расдзяржстраху — 75 гадоў».
**23.35** Музыка ўсіх пакаленняў.
**23.50** Хто на што здатны.
**24.00** Не спі і глядзі.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55, 23.35** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.00** Тэрмін адказу — сёння.
**13.30** Парады садаводам.
**13.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**14.10** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял.
**15.00** «Песні памяці маёй». Лірычны фільм-канцэрт.
**15.20** Пасынкі? Сыны? Цыкл «Храм».
**16.10** Парадоксы гісторыі.
**16.40** «Інспектар Гэджэт». Мультсерыял.
**17.05** «Тры колы, фаліянт і...»
**17.35** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.25** «Першае каханне». Серыял.
**20.10** Асабістая справа.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** «Дэмпсі і Мейкпіс». Серыял.
**22.15** Дом кіно.
**22.55-23.35** Тэлекампакт. Музычнае шоу.

### НТБ

**7.00, 9.00, 11.00, 13.00** Сёння.
**8.15** Дак. фільм «Галівуд знутры».
**9.15** Маст. фільм «Кето і Катэ».
**10.40** Маст. фільм «Цудоўныя гады».
**11.15** Маст. фільм «Меланхолія».
**12.40** Лацінаманія.
**13.15** «Сучасны граф Монтэ-Крыста» (Францыя). 3-я серыя.

### Расійскія універсітэты

**14.40** Лексікон гісторыі культуры.
**15.10** Балет «Бэзавы сад».
**15.35** Гутаркі аб рускай культуры. Перадача 12-я.
**16.10** Выбаргскі кінафестываль.
**16.40** Навіны.

### НТБ

**17.00** Мультсерыял.
**17.30** Жаночыя гісторыі
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Маст. фільм «Адзенне для забойцы».
**21.35** «Сучасны граф Монтэ-Крыста» (Францыя). 4-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** «Мамчыны сынкі».

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем мужа і тату Уладзіміра ЛЕРКЕ з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, дабрабыту ў сям'і і доўгіх гадоў жыцця.*

**г. Мінск, жонка, дзеці.**

*Мілая Любоў Міхайлаўна ПАРХОМІК! Віншую з юбілеем! Жадаю моцнага здароўя, шчасця. І памятай: пяцьдзесят — гэта не канец, а жыццё толькі сярэдзіна.*

**Твая пляменніца Тамара Пучко.**

*Віншуем дарагую дачку Святлану Аляксандраўну з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.*

**Бацькі, муж і дачка Вераніка.**

*Сардэчна віншуем з юбілеем дарагую і любімую Галіну Адамаўну ЗАЛЕСКУЮ са Слуцка. Жадаем, каб беды абыходзілі бокам, а слёзы былі толькі ад шчасця. Моцнага здароўя табе, усіх даброт.*

**Муж, дзеці і бацькі.**





36,6

## ДАРЭЧЫ

### АРГАНІЗМ ПАВІНЕН АТРЫМЛІВАЦЬ З ЕЖАЙ БОЛЬШ ЯК 300 МІЛІГРАМАЎ ХАЛЕСТЭРЫНУ

**Ў СУТКІ (У АДНЫМ ЯЕЧНЫМ ЖАЎТКУ ЗМЯШЧАЕЦЦА 250 МІЛІГРАМАЎ ХАЛЕСТЭРЫНУ).**

Прыроднае спалучэнне спецыфічных рэчываў, што змяшчаюцца ў зялёным чаі, спрыяльна ўздзейнічаюць на ліпідны абмен. Не выпадкова таму шклянка зялёнага чаю на ноч рэкамендуецца як сродак прафілактыкі атэрасклерозу.

А часнок не толькі зніжае ўзровень халестэрыну ў крыві, тым самым змяншаючы рызыку развіцця сардэчна-сасудзістых хвароб, але і перашкаджае ўтварэнню ў арганізме харчовых ядаў. У працяг размовы пра часнок трэба адзначыць, што ў ім змяшчаецца мікраэлемент селен, які звязвае так званыя свабодныя радыкалы, змяншаючы тым самым паражаючае ўздзеянне радыяцыі на арганізм.

Амерыканскі вучоны Гары Фразер з Каліфарнійскага універсітэта сцвярджае, што той, хто хоць бы 5 разоў на тыдзень з'ядае па 5 грэцкіх арэхаў, у сярэднім жыве на... сем гадоў даўжэй. Сваё сцвярджэнне прафесар грунтуе на даследаваннях, якія, у прыватнасці, паказалі, што ў састаў грэцкіх арэхаў уваходзяць кіслоты, якія засцерагаюць сасуды ад згубнага ўздзеяння залішняга халестэрыну.

Як устанавілі даследчыкі з Уругвая, антарктычны крыль таксама змяшчае рэчывы, што перашкаджаюць утварэнню ў крываносных сасудах халестэрынавых бляшак. Цікава, што ў крыві пінгвінаў, якія харчуюцца крылем, халестэрыну няма наогул. Цяпер на аснове рэчыва, атрыманага з крыля, распрацоўваецца лекавы прэпарат супраць атэрасклерозу.

Тым, у каго ўзровень халестэрыну ў крыві павышаны, пажадана ўключаць у свой рацыён 2-3 разы на тыдзень тлустыя сарты марскіх рыб (скумбрыю, сардзіны, селядзец, тунец, ласось, палтус). Бо рыбін тлушч, такі нелюбімы многімі з дзяцінства, аказвае дабратворнае дзеянне на сценкі сасудаў і перашкаджае ўтварэнню на іх паверхні атэрасклератычных бляшак.

**Валерый СЯРОГІН.**

*«Гастроном».*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.



*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*





Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94430. Індэкс 63850.
Зак. № 6713.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12